

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 4 (639) 28 СТУДЗЕНЯ 2004 г.

## "Белпошта". Прадукцыя беларускамоўная на сто адсоткаў




Апошнія серыі паштовак выдання "Белпошта", якія паступілі ў продаж пасля Новага года цалкам беларускамоўныя. "Віншую", "Са святам", "З юбілеем", "З днём нараджэння". Паштоўкі з такімі надпісамі прадаюцца разам з беларускамоўнымі канвертамі і без іх па параўнальна невысокіх цэнах. У паштовых аддзяленнях з'явіліся стэнды з цалкам беларускамоўнай працукцыяй.

Здымак гэтага стэнда зроблены на п/а Ліда-2 22 студзеня 2004 года.

Непрададзеныя яшчэ рускамоныя паштоўкі размешчаны на стэндзе "Прадукцыя замежных выдаўцоў", і цэны на іх крыху вышэйшыя.

*Наш кар.*

## Міжнародныя кантакты ТБМ

21 студзеня 2004 г. старшыня ТБМ па просьбе амбасадара АБСЕ сп. Хайкена наведаў офіс АБСЕ і меў працяглую размову з амбасадарам, якога цікавіла сітуацыя, што склалася вакол сядзібы ТБМ.

Алег Трусаў даў падрабязную інфармацыю аб працы Таварыства беларускай мовы, а таксама пра захады грамадзянскай арганізацыі па захаванні сядзібы ТБМ па вуліцы Румянцава. Ён выказаў асаблівую ўдзячнасць рэдакцыі беларускай службы Радыё Свабода, якая прапанавала выступіць у перадачы "Пражскі акцэнт" і ў жывым эфіры раніцай 21 студзеня. Сваю падтрымку Таварыству ўжо выказалі сотні грамадзян Беларусі, якія накіравалі свае подпісы ў абарону сядзібы ТБМ кіраўніку г. Менска.

Старшыня ТБМ расказаў, што адасланы адпаведныя лісты на імя Латыпава, Дражына і Паўлава з прапановай сустрэцца і абмеркаваць сітуацыю вакол сядзібы ТБМ.

Спадар Хайкен паведаміў, што АБСЕ адсочвае сітуацыю, якая склалася вакол беларускага гуманітарнага ліцэя і абяцаў праінфармаваць кіраўніцтва АБСЕ пра ўціск з боку ўладаў на ТБМ. Дарэчы, пераклад падчас размовы вёўся з беларускай мовы на англійскую і наадварот.

У бліжэйшыя дні запланавана сустрэча кіраўніцтва ТБМ з супрацоўнікамі амерыканскай амбасады па іх просьбе.

*Наш кар.*

## Доктару гістарычных навук Леаніду Лычу - 75 гадоў



**Вельмішаноўны Леанід Міхайлавіч!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, рэдкалегія "Нашага слова" сардэчна віншуюць Вас, доктара гістарычных навук, сябра Рады "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", найактыўнейшага сябра Таварыства ад часу яго ўтварэння - з плённым 75-годдзем.

Жадаем Вам яшчэ на доўгія гады вытрываласці. Усе мы разам будзем набліжаць той дзень, калі наша самабытная, самая славянская з славянскіх мова вырвецца нарэшце з палону зняваг і прыніжэнняў, і яе палюбяць усе. Хай жа Вашае замілаванне роднай мовай паспрыяе гэтаму.

**Старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

*(Пра Леаніда Лыча чытайце на ст. 2.)*

## Спаўняецца 70 гадоў прафесару Міколу Савіцкаму



**Вельмішаноўны Мікола Янавіч!**

Сакратарыята ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны", рэдакцыя газеты "Наша слова" віншуюць Вас, выбітнага змагара за беларускую мову, праваднікà ў жыццё беларускай нацыянальнай ідэі, прафесара з юбілеем.

Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, бадзёрасці і плёну ў змаганні за лепшую будучыню нашай Бацькаўшчыны.

**Старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы" Алег Трусаў.**

*(Пра Міколу Савіцкага чытайце на ст. 3.)*

# А БЫЎ БЫ ШЧАСЛІВЫ ДЗЯДЗЬКА ЛЯВОН...

**(Шчырае слоўка пра сябра з нагоды ягонага 75-годдзя)**

От мы і прычакалі, дарагі дружа, твайго сямідзесяціпяцігоддзя. Кожны твой дзень, кожны год – гэта гады надзеяў і парыванняў. А надзеі ў нас і парыванні адны і тыя ж. І найперш, каб у нашай краіне наша мова нарэшце сталася ўладарай гаспадыняй ці хаця б роўнай сярод роўных, і ты быў бы шчаслівы.

Толькі навошта ж Табе, гісторыку, а перад тым вайсковаму афіцэру, гэткае шчасце? Цябе, магла б сытна карміць, як корміць іншых і расійская, якую ты хоць і з цяжкасцю, але спакваля адолеў, асядлаў. Памятаеш, як ты, ужо афіцэр, выкшталцоўваў, удасканальваў сваё расійскае маўленне?! Ішоў ад паштамта да Круглай плошчы ці ад Круглай плошчы да паштамта і ўсё паўтараў: "Буряк, буряк, буряк!.." Гэтак ты імкнуўся вызваліцца ад свае беларускасці, падганяў сваё маўленне пад маскоўскае, каб у табе, крый Божа, не распазналі, што ты беларус, з Беларусі. Яно, можа, гэтак і пакацілася б далей: "Буряк, буряк, тряпка...", каб не твая матуля. Гэта яна табе аднойчы, падчас твае чарговай пабыўкі ў Магільным, сказала: "Дык ты, што, сынок, нас ужо і за людзей не лічыш? І мову нашу зусім бракуеш?!" Гэтыя матуліны словы, ты сам прызнаваўся, цябе, як агнём апяклі. І пачаў ты з тае пары думаць: *"Што гэта за люд такі беларусы?! Як толькі каторы адскочыць трошкі вышэй за бацькавыя калёсы ды за вёску ці мястэчка сваё выйдзе, то ўжо імкнецца ў чужую мову наварочвацца."* Гэтак было і за палякамі, гэтак сталася з цягам часу і за саветамі.

Польскае ўладарства табе таксама трохі памятаецца. Тваё мястэчка Магільнае гістарычна Магільня было пры памежжы. Табе нават памятаюцца заходнебеларускія прыпеўкі-дражнілкі. Адна з іх гучэла так: "Бальшавік, бальшавік, падраны чаравік".

Выпала Табе, чалавеку паблажліва-лагоднаму, і нямецкую акупацыю перажыць. Не ваяўнічы з прыроды, а мусіў быць змагаром. Змагаром за нашу самабытнасць. Колькі табою прац з гісторыі нашай мовы напісана! І ўсе яны, і аналітычныя, і, адначасна, эмацыйныя. На іх гартуюцца душы не аднаго пакалення. Мы з табою знаёмыя дзесь з канца шасцідзесятых гадоў. Пазнаёміліся ў бібліятэцы. Памятаеш як? Ты прыйшоў у чытальню. Аж там усе сталы занятыя. Ты агледзеўся, а падышоў чамусь да мяне і сказаў: "Вы не будзеце супраць, калі я за вашым сталом прымашчуся?" Гэтая прапанова мне дужа спадабалася. З тае пары мы не толькі сталом дзелімся, але і думкай, настроямі, каб было лягчэй агорваць усе нашы моўныя нэнды. Як на мой погляд, ты з усіх бакоў станоўчы чалавек. Спакойны, ураўнаважана-лагодны... Гэты твой спакой, ураўнаважаная лагоднасць – твая сіла і моц.

У 1979 годзе тваё роднае мястэчка Магільню (Магільнае) мясцовыя чыноўнікі перайменавалі ў Нёман. Колькі Ты зрабіў намаганняў, каб пераканаць чынавенства, што зроблена беспаваротнае глупства! Здавалася, аднавіць, вярнуць роднаму мястэчку ранейшы назоў немагчыма. Ва ўсякім разе, наша беларуская рэчаіснасць не ведае такога ў сваёй практыцы. Тым не менш, ты сваёй ураўнаважанай лагодаю змог пераканаць усіх чыноўнікаў, што імі зроблена чарговае глупства – і твайму роднаму мястэчку была вернута гістарычнае найменне.

Гэта была вялікая твая перамога. Шкада толькі, што на гэтае вяртанне было патрачана гэтулькі сілы і часу.

Ты, Лявоне, патрыёт свайго народу, сваёй краіны. Патрыятызм твой як і сам ты, - лагодны, развальлівы, паважны, разам з тым і напорысты, з глыбокім пераканнем свае праўды. Якраз гэтага не ставала і не стае тваім апанентам, бо іхнія аргументы ідэалагічна надуманыя і пад логікай тваіх гістарычных довадаў рушацца, як пясочныя піраміды. І ў гэтым таксама твая моц!

Шмат хто і не здагадваецца, праз якія жыццёвыя выпрабаванні Ты мусіў прыйсці, перш чым стацца тым, кім стаўся.

... 1951 год. Лёс закінуў цябе, беларускага юнака з ментальнасцю жытнёвага коласа, туды, куды Макар цялят не ганяў – у сібірскія лагеры палітзняволеных. Цябе, малодшага лейтэнанта, абвяшчаюць цяпер – упаўнаважаным. Усім, хто цябе ведае, гэта нават і ў галаве не ўкладваецца, каб Ты, цяперашні змагар за нашу нацыянальную ідэю, матчыну мову, знаны наш гісторык, аперупаўнаважаным гулагаў быў. А быў!... Табе праз гэтыя гулагі выпала нават пастаяць ля магілкі слыннага нашага ксяндза Адама Станкевіча.

Прыгадваецца твой аповяд.

*... 1952 год. Тайшэцкі раён, Іркуцкая вобласць. Да цябе падыходзіць палітзняволены і кажа:*

*- Грамадзянін начальнік, а вы гэтую асобу ведаеце, і паказвае на Станкевічаву магілку...*

*Ты адказаў:*

*- Не!*

*- То будзеце ведаць! Гэта быў вялікі чалавек!"*

Твой службовы стан не дазволіў тады распытацца, хто той палітзняволены, які табе пра нашага ксяндза нагадаў... Спадзяёмся, калі – небудзь пра сваю службу ў гулагах Ты распавядзеш сам...

- І ўсё ж цікава: якая бура Цябе, сціплага беларускага юнака, загнала ў вучэльню, дзе рыхтавалі на аперупаўнаважаных?

*- Я згадваў: гадаваўся на памежжы. Поблізу Магільнага была застава, памежная камендатура. Мы любілі памежнікаў. Нам падабалася іхняя служба. Мы, дзецьмі, дапамагалі ім лавіць "шпіёнаў". От я і падаўся ў такую вучэльню. Нам і казалі: будуць рыхтаваць на памежнікаў... А пасля змянілі профіль.*

- А якая ж бура Цябе, дружа, выкінула з гэтых аперупаўнаважаных?

*- Калі коратка, без жанчыны тут не абышлося. Гэтай жанчынай сталася мая жоначка з першага шлюбу. Яна апазналася мне агентам камісарыяту народнай бяспекі.. Была яна татарка. Звалі яе Гатауліна. З-за яе мяне выключылі з камсамолу. Ці можа калі больш дакладна, я сам развітаўся з камсамолам з сваёй ініцыятывы. І ў ніякія партыі я больш не паступаў. На тую пару ці мог я з такімі сваімі настроямі заставацца аперупаўнаважаным?! Патрабавалі псіхіятрычнай экспертызы. Але ўсяго гэтага пазбегнуць пастрыяла мне маладая прыгожая доктарка з беларускім прозвішчам. Відаць, колішняя перасяленка з Беларусі. Праз яе згадалася Радзіма, гэтай парою я ўжо вучыўся завочна на гістарычным факультэце Уфімскага універсітэта. Неўзабаве я падаўся на Беларусь. Тут усё і пачалося. Праз роздум жыцця сярод розных народаў, я ўжо тады не ўяўляў развіцця беларускай гістарычнай навукі па-за беларускай моваю, таму напісаў гісторыю чыгуначнага транспарту пасляваеннага перыяду на роднай мове. Не абараніў па ёй доктарскай дысертацыі: Масква з 1975 г. патрабавала пісаць такія навуковыя працы толькі па-руску. З канца 70-х гадоў па закліку ўласнай душы стаў распрацоўваць гісторыю нацыянальнай культурнага развіцця Беларусі, бо бачыў тут шмат чаго несправядлівага. Упершыню публічна выказаўся ў абарону беларускай нацыянальнай ідэі ў 1983 г. у Баку на агульнасаюзнай навуковай канферэнцыі. Тэкст выступлення трапіў у ЦК КПБ. Ён быў размножаны ідэалагічным апаратам для азнаямлення. Высновы аўтара былі такія настолькі пераканаўчыя, што палічылі патрэбным выклікаць яго на "прапрацоўку".*

- Дарагі дружа быў ты і сярод тых смельчакоў, што адважыліся ў 1986 г. паслаць ліст у ЦК КПСС, у якім гаварылася пра хібы нацыянальнай палітыкі партыйнай арганізацыі рэспублікі.

Ты першы, Лявоне, тэатычна абгрунтаваў у сваіх публікацыях неабходнасць надання беларускай мовы статусу адзінай дзяржаўнай у краіне. Твае высновы па гэтай праблеме выкарыстаны ў прынятым 26 студзеня 1990 г. Законе "Аб мовах у Беларускай ССР".

У сваіх публікацыях, Лявоне, Ты папярэдзіў грамадства пра небяспеку задуманага чыноўніцкім апаратам рэферэндуму 1995 года. Пазней паказаў яго шкодныя наступствы для беларускай мовы. Усім нам прыемна, што Тваё імя, Лявоне, амерыканскім біяграфічным цэнтрам уключана ў даведачнае выданне "Пяцьсот знаных навукоўцаў свету". У згаданае выданне занесены імёны асобаў, што зрабілі ў XX-XXI стагоддзях вялікі ўклад у развіццё грамадства.

Усім нам таксама за гонар, што гэты інстытут шостага снежня 2002 года надаў Табе, дарагі дружа, тытул "Чалавек года", дванаццаць другога студзеня 2003 года папрасіў твае згоды быць сябрам згаданага інстытута. Несумненна, гэта высокая ацэнка. Ты, Лявоне, заслужыў яе сваім укладам у распрацоўку гісторыі нацыянальнага, культурна-моўнага развіцця беларускага народу. Гэта сведчыць пра неабыякавасць прагрэсіўнай сусветнай грамадскасці да такой праблемы, закладпачанасць станам этнічнай дэградацыі тытульнай нацыі Беларусі.

... Некалі наш народны песняр казаў: "А быў бы шчаслівы Янка Купала, каб бачыў долю ў родным народзе. "Вялікі песняр не прычакаў гэтага шчасця. То, можа, Лявоне, табе выпадзе прычакаць гэтага шчасця?!

На пытанне: адкуль твой патрыятызм; ты неяк адказаў:

*- З "Новай зямлі" Якуба Коласа. Мы, тагачасныя дзеці, дый нашы бацькі, вельмі любілі гэты Коласаў твор. Балазе, наша Магільнае поблізу песняровых мясцінаў, апісаных у паэме. Некаторыя мясціны мы нават пазнавалі..."*

***Уладзімір Содаль.***

# ЛЕАНІДУ ЛЫЧУ – ГОДНАСЦІ І СІЛЕ БЕЛАРУСІ – 75 !

***У свеце ёсць толькі дзве годнасці, перад якімі можна і павінна пакланяцца з глыбокай пашанай. Гэта – геніяльнасць і дабрыня сардэчная.***
***Віктар Гюго.***

Прыход у гэты свет у Леаніда Міхайлавіча Лыча адбыўся 8 лютага 1929 года ў вёсцы Магільнае, якая потым манкуртамі была пераназвана, але яе вялікі ўраджэнец меў такую сілу, такую веру і падтрымку аднавяскоўцаў, што ўлады вымушаны былі адступіць вярнуць яе насельнікам спрадвечнае найменне.

У 1957 годзе Леанід Міхайлавіч скончыў Башкірскі педагагічны інстытут і працуе настаўнікам. З 1962 года ён працуе ў акадэмічным Інстытуце гісторыі, у 1992-1996 гадах быў старшынёй Тапанімічнай камісіі пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Уздзеншчына – месца нараджэння выдатнейшага беларускага гісторыка-вучонага вывучана ім дасканала. У полі яго зроку, прыхільнасцяў, канешне, найперш былі выдатныя сыны і дочкі гэтага незабыўнага краю. І сярод іх беларускі татарын Адам Якаўлевіч Александровіч, якому ён у 2003 годзе прысвяціў сваё знакамітае выступленне ў сценах Уздзенскага гістарычна-краязнаўчага музея. Або другі сын нашае Беларусі – самаадданы, самаахвярны энцыклапедыст Якуб Адамавіч Якубоўскі, якога Леанід Міхайлавіч уславіў у сваіх друкаваных творах.

У 1989 годзе Леанід Міхайлавіч Лыч пасля абароны дысертацыі стаў доктарам гістарычных навук, у 1993 годзе годна атрымоўвае званне прафесара.

Адна з вядучых тэмаў публікацый шаноўнейшага Леаніда Міхайлавіча – адраджэнне родных вытокаў, што з аднаго боку прынеслі яму высокі аўтарытэт і прызнанне. І нездарма пра такіх руплівых, як Л.М. Лыч, гавораць, што яны годнасць і сіла нашай Айчыны!

Калі даследчык татаршчыны захоча даведацца пра наш татарскі люд, дык ён, несумненна, не абыдзе штоквартальнік "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", тэмы дзесяці татарскіх навукова-практычных канферэнцый, а ў іх і імя Леаніда Міхайлавіча Лыча, якому належыць таксама адна з вядучых роляў у вывучэнні гісторыі, духоўнай і матэрыяльнай культуры татараў. І на іншых мерапрыемствах беларускіх татараў Л.М.Лыч – адна з яркіх і каларытнейшых асоб.

Дарагі Леанід Міхайлавіч!

У зіхатлівае Вашае 75-годдзе мы зычым Вам дабра, здароўя, шчасця, энергіі, новых і багатых здабыткаў на Вашай творчай ніве!

***Ібрагім Канапацкі (Менск),***
***Міхась Маліноўскі (Баранавічы).***

# *У імя Бога Міласціваго і Міласэрнага!*

Беларускае грамадскае аб'яднанне татараў "Зікр уль-Кітаб", шчыра і сардэчна з пачуццём вялікай павагі віншуюць з 75-годдзем вельмішаноўных спадароў Анатоля Пятровіча Грыцкевіча і Леаніда Міхайлавіча Лыча.

Татары Беларусі, Літвы і Польшчы ганарацца знаёмствам з Вамі, Вашай праніклёнай увагай і павагай да праблемаў нашага нешматлікага народа. Вашая здольнасць вылучаць і спрыяць захаванню адметнага ў асобным чалавеку, згуртаванных людзей, нацыянальных супольнасцях вельмі цэніцца намі. Для нас Вы з'яўляецеся прыкладам адданага служэння Бацькаўшчыне, самаахвярнай дзейнасці на карысць свайго народа, нацыі ў цэлым.

Мы ўдзячныя Богу, што ў сардэчных памкненнях Ён паяднаў нас. Пры ўсіх існых цяжкасцях побач з Вамі нашае няпростае жыццё напаўняецца аптымізмам, святлом і любоўю. Жадаем Вам надоўга захаваць свае высакародныя якасці.

Здароўя Вам і міласці Божай!

Са святам Вас!

***Праўленне грамадскага аб'яднання***
***"Зікр уль-Кітаб".***
***Рэдакцыя газеты "Жыццё татарскае".***

# Заступнік Радзімы

4 лютага спаўняецца 70 год прафесару Міколу Савіцкаму, ужо былому выкладчыку Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, якому ён аддаў амаль 40 гадоў свайго жыцця. Навуковае званне прафесара па кафедры "Вылічальныя машыны і праграмаванне на ЭВМ" яму прысвоіў у 1982 г. ВАК СССР. Ён з'яўляецца першым кандыдатам навук па машыннай апрацоўцы эканамічнай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама стваральнікам і арганізатарам новай у той час кафедры "Механізацыя ўліку і вылічальная тэхніка" (1965 г.), загадчыкам якой працаваў амаль дваццаць год. Быў дэканам факультэта. Асабіста і праз мэтавую аспірантуру падрыхтаваў дзесяць кандыдатаў навук. Надрукаваў больш 100 навуковых прац агульным аб'ёмам 360 выд. арк. і шэраг публіцыстычных артыкулаў па пытаннях адраджэння беларускай мовы і культуры.

Савіцкі ўнёс значны уклад у падрыхтоўку навукова-метадычнай літаратуры па эканамічнай інфарматыцы, якая атрымала прызнанне грамадскасці вышэйшай школы і сярэдніх спецыяльных устаноў былога СССР: у сваёй галіне ведаў ён першым стварыў комплекс навукова-метадычнага забеспячэня вучэбнай дысцыпліны "Вылічальныя машыны і праграмаванне" для эканамічных ВНУ і факультэтаў. Аднайменны падручнік з грыфам Міністэрства адукацыі вытрымаў два выданні (1973, 1980 гг., 29 выд. арк.). Аўтар першай тыповай праграмы курса "Машынная апрацоўка эканамічнай інфармацыі ў галінах народнай гаспадаркі", зацверджанай Мінадукацыі СССР, і першага вучэбнага дапаможніка з грыфам па гэтай дысцыпліне (М.:Статистика, 1979, 15 выд.арк.). Выдаў падручнік для тэхнікумаў з саюзным грыфам "Техника вычислений и механизация учёта", які вытрымаў тры выданні, (М.:Статистика, 1969, 1974, 1979 гг., 17 выд. арк.).

Адзін з піянераў у распрацоўцы навукова-метадычных асноў для развіцця беларускамоўнай навуковай тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы. Аўтар першых слоўнікаў "Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы" і (1992 г.), вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове па аднайменных вучэбных прадметах "Эканамічная інфарматыка і вылічальная тэхніка" (1996 г.), "Тэхналогіі арганізацыі, захоўвання і апрацоўкі звестак" (2000г.).

Актыўны сябра ТБМ. Удзельнік усіх з'ездаў Таварыства. На працягу 5-ці гадоў узначальваў Раду ТБМ г. Менска. Выбіраўся ў склад рэспубліканскай Рады. Першы ў незалежнай Беларусі пачаў выкладаць інфарматыку і вылічальную тэхніку па-беларуску. Сябар менскага гарадскога культурна-асветніцкага клуба "Спадчына". Ушанаваны памятным медалём з выявай "Пагоня", адпаведным дыпломам і з занясеннем прозвішча ў кнігу гонару "Руплівцы твае, Беларусь". А ў сувязі з 70-годдзем Камітэт Ушанавання прыняў рашэнне ўзнагародзіць яго срэбным пярсцёнкам з выявай "Пагоня" і асабістымі ініцыяламі.

Ён удзельнік усіх масавых мерапрыемстваў, ладжаных у абарону незалежнасці Беларусі, роднай мовы, правоў чалавека, гістарычнай спадчыны, акцый пратэсту. Не аднойчы арыштоўваўся, штрафаваўся, зведаў турэмныя нары, атручванне газам і іншыя міліцэйскія "сродкі ўтаймавання". Ён адзін з першых, з каго пачаўся адлік рэпрэсій над пратэстнай інтэлігенцыяй.



Мікола Савіцкі, Анатоль Грыцкевіч, Артур Вольскі і Васіль Быкаў

### Акраверш

Святы Божа – святы Бесмяротны!
Ахавай незалежны наш край.
Вечна квітнее хай кут гэты родны
І чужынцу яго ў палон не аддай.
Цярплівы народ давялі да галечы, -
Каб з коленак век не паўстаў беларус,
Абдзелены лёсам і з мовай знявечнай,
Мусіў імкнуцца ў расійскі хаўрус.
Устрымай жа ад гэтай спакусы,
Магутны сусвету Уладар,
І моцы і розуму дай беларусу,
Каб быў сам сабе гаспадар.
Асвяці, Усявышні, шлях нашай Пагоні –
Ляціць хай ваяр наўздагон,
Ад вырадкаў, ворагаў нас абараніць,
Юду ж спаткае праклён.

*Мікола Лавіцкі.*

---

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны смуткуе і выказвае спачуванне прафесару, аднаму з заснавальнікаў ТБМ Міколу Савіцкаму з прычыны вялікага гора — смерці маці Надзеі Ягораўны.**

**Надзея Ягораўна адышла ў лепшы свет на 91 годзе жыцця. Яна працавала на роднай зямельцы, узгадавала і выхавала чацвярых дзяцей, адданых свёй Радзіме. Надзея Ягораўна была шчырай беларускай, якой балела за родную краіну. Яе апошнімі развітальнымі словамі было пытанне: "Ці абароніце Беларусь?"**

**Вечная памяць.**

## ВЫТОКІ НАШАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Шаноўныя сябры!**

*Нягледзячы на тое, што наша краіна 27 ліпеня 1991 года аб'явіла аб сваёй незалежнасці, сённяшняя дзяржаўная ідэалогія ўсяляк замоўчвае, як вытокі нашай незалежнасці, закладзеныя ў апошнія стагоддзі менавіта 25 сакавіка 1918 года, так і гісторыю ды стваральнікаў аднойленай Рэспублікі Беларусь. Так званая "дзяржаўная ідэалогія" прапануе нам дзікі гібрыд неасавецкасці і расійскай імперскасці ў фальклорна-беларускай абгортцы.*

*Таму мы ўтвараем новую пастаянную рубрыку, у якой беларускія гісторыкі, пісьменнікі і філосафы будуць расказваць пра вытокі нашай незалежнасці, пра стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі і трагічны падзел нашай інтэлігенцыі на пачатку мінулага стагоддзя, а таксама пра нацыянальна - вызвольны рух першых гадоў савецкай улады і супраціўленне тых, хто не хацеў і не мог змірыцца з гвалтам таталітарызму.*

*Запрашаем усіх удзельнічаць у гэтай рубрыцы, паколькі Вашыя ўспаміны, нататкі і паведамленні могуць істотна дапоўніць усё, што надрукавана па гэтых тэмах за апошнія гады, а таксама сістэматызаваць унікальныя матэрыялы, пра якія павінен ведаць кожны свядомы беларус.*

*У першую чаргу гэта - высвятленне з грамадскага кола Беларусі, а потым і амаль паўсюдная знішчэнне тых, хто спрабаваў праўдзіва і аб'ектыўна расказаць пра нашу гісторыю. Так, вядомы і паважаны прафесар Беларускага універсітэта Мітрафан Віктаравіч Доўнар - Запольскі вымушаны быў пакінуць працу і -- у 1926 годзе-Беларусь толькі за тое, што канцэпцыя, прапанаваная ім у рукапіснай працы "Гісторыя Беларусі", прыйшлася не да спадобы бальшавіцкім уладам, якія і тады не жадалі прызнаваць выключнай ролі БНР як сапраўднага носьбіта нацыянальнай ідэі. З'ехаўшы ў Маскву, М. Доўнар - Запольскі памёр там у 1934 годзе, так і не здзейсніўшы многіх сваіх задум на карысць дарагой яму зямлі. Але іншыя гісторыкі першай чвэрткі стагоддзя, такія, як У. Ігнатоўскі, В. Ластоўскі - скончылі свой зямны шлях куды больш трагічна. Пра іх мы яшчэ будзем весці гаворку. Аднак рубрыку **"Вытокі нашай незалежнасці"** хацелася б пачаць менавіта з артыкула М. Доўнар - Запольскага "Жэрабя кінутае!", які стаў прадмовай да кнігі А. Цвікевіча "Кароткі нарыс узнікнення Беларускай Народнай Рэспублікі", выдадзенай у Кіеве ў 1918 годзе, неўзабаве пасля абвяшчэння БНР і які я падаю ў перакладзе з рускай мовы. Многае, сказанае ў гэтым артыкуле, з поўным правам можна аднесці і да сённяшняга нашага часу, асабліва заклік да дружнай і ўзнёслай працы на карысць Бацькаўшчыны.*

***Вольга Іпатава.***

**Кіеў, 8 красавіка.**

Жэрабя кінутае! Вялікі акт у жыцці нашага народа здзейснены: Беларусь аб'яўленая сваім урадам самастойнай рэспублікай. У кожнага беларуса пры гэтай навіне затрапеча сэрца. Шэраг трывожных і светлых пытанняў павінен прамільгнуць у галаве кожнага з нас: ці маем мы права на такі крок, ці ў час зроблены гэты крок і - галоўнае - што чакае нашу Радзіму наперадзе?

Мне думаецца, наўрад ці трэба даказваць, што беларускі народ мае права на самавызначэнне і на самастойнае існаванне. Мы складаем нацыю, якая адрозніваецца ад іншых рускіх народнасцяў сваёй мовай, этнаграфічнымі асаблівасцямі і агульным культурным ладам жыцця, якія склаліся гістарычна. Ужо адно гэта дае нам права на самастойнае дзяржаўнае існаванне. У гістарычных адносінах мы ўяўляем з сябе нацыю, якая толькі каля 150 гадоў складала правінцыю Расійскай імперыі. Перад далучэннем да Расіі Беларусь перажыла тры перыяды гістарычнага жыцця. Да 14 стагоддзя яна складалася з некалькіх княстваў, кожнае з якіх мела значэнне самастойнай дзяржавы. У 14 ст. Беларусь дабраахвотна аб'ядналася з Літвой і да 1569 году прадстаўляла сабою самастойнае дзяржаўнае цела. І пасля 1569 года, злучыўшыся актам уніі з Польшчай, Беларусь не страціла сваіх сувярэнных правоў, застаючыся некалькі стагоддзяў федэратыўнай часткай Польска - Літоўска - Рускай дзяржавы. Яна не была правінцыяй Польшчы, захоўваючы сваю дзяржаўнасць. Мы гістарычна прывыклі да свабодных установаў, якія Расія ў нас адабрала.

У эканамічным значэнні наша Радзіма ўяўляе з сябе краіну хаця і бедную на прыродныя багацці, але эканамічна аднародную і абасобленую.

Усе гэтыя асаблівасці нашай Радзімы і нацыі даюць нам гістарычнае права на самастойнае існаванне. Але пытанне заключалася ў тым, ці ў патрэбны час вызначаны момант для аб'яўлення Беларусі самастойнай Рэспублікай. З усяго таго, што нам дасюль вядома аб становішчы спраў у Беларусі, яе пакутах, мы з цвёрдасцю можам сказаць адно: іншага выйсця і быць не магло. Мы не спяшаліся адасобіцца ад нашай старэйшай сястры, але Пецярбургскія ўлады абрабавалі нашу бедную краіну, не далі скласціся ў ёй праўленню на федэратыўных альбо аўтаномных пачатках і кінулі нашу радзіму на волю лёсу. Пры такіх умовах наш часовы ўрад абвязаны быў зрабіць тое, што ён і зрабіў. Іншае пытанне, ці ўладкуем мы сваё жыццё цалкам самастойна, ці ўвойдзем як частка ў склад якой - небудзь федэратыўнай камбінацыі. Важна тое, што цяпер мы будзем выбіраць тую ці іншую камбінацыю ў адпаведнасці з нашымі інтарэсамі.

Падсумоўваючы сказанае, мы не можам не вітаць здзейсненага факту. І мы ўсе, беларусы, павінны памятаць, што цяпер становішча нашай Радзімы накладвае на нас цяжкі і адказны абавязак. Мы павінны ўсе з'яднацца, мы павінны напружыць усе свае сілы фізічныя і культурныя дзеля таго, каб адстояць наша права на самастойнае існаванне і адстояць незалежнасць нашай радзімы. Да дружнае працы, браты!



**Помнік М. Доўнар-Запольскаму ў Рэчыцы. Здымак Р. Жалезнага, Ліда.**

***Праф. М. Доўнар - Запольскі.***

*Анатоль Грыцкевіч*

# Як ішло змаганне з фальсіфікацыяй гісторыі ў 80-я гады XX ст.

Ужо ў 80-х гадах XX ст. у гістарычнай навуцы ў Беларусі, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, поўнасцю панаваў дагматычны падыход у напісанні гістарычных прац. Амаль усе гісторыкі перапявалі падзеі XX ст., часоў савецкай улады, у большасці расхвальваючы перамогі камуністычнай партыі і савецкага народу, якім яна кіравала, у перыяд пабудовы камунізму. Дарэвалюцыйнай гісторыі Беларусі займаліся лічаныя адзінкі гісторыкаў.

Цэлыя перыяды і значныя тэмы ўвогуле былі забароненыя. Нешаблонная пастаноўка пытанняў, з новымі падыходамі да гістарычных праблем і новымі адказамі афіцыйнымі коламі і навуковым начальствам не толькі не ўспрымалася, але і адвяргалася ды забаранялася.

У выніку такіх забаронаў у гістарычнай навуцы з'явіўся своеасаблівы тып савецкага гісторыка, які амаль зусім быў пазбаўлены пачуцця адказнасці за вынікі сваёй працы. Такому вучонаму было абыякава, ці будзе чытач чытаць ягоныя працы і давяраць ім ці не. Абы выйшла манаграфія ці артыкул. Зваротная сувязь з чытачом такога навукоўца зусім не цікавіла. Галоўнае для яго, каб начальства было задаволена - і высокае, і непасрэднае.

Разам з тым усё большай папулярнасцю ў той перыяд карысталіся мастацкія творы па гістарычнай тэматыцы Уладзіміра Караткевіча, Эрнеста Ялугіна, Канстанціна Тарасава, Вольгі Іпатавай, Уладзіміра Арлова, гісторыка і пісьменніка Міколы Ермаловіча ды іншых. Можна сказаць, што тады ў пашырэнні гістарычных ведаў пісьменнікі фактычна замянілі прафесійных гісторыкаў.

Першымі з навукоўцаў рашуча выступілі ў друку і з дакладамі на канферэнцыях у сярэдзіне 80-х гадоў XX ст. доктар філалагічных навук і вядомы літаратуразнаўца і пісьменнік прафесар Адам Мальдзіс, тады дацэнт (цяпер доктар культуралогіі) з ленінградскага інстытута культуры і старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Ленінградзе гісторык Валянцін Грыцкевіч і доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч. Яны крытыкавалі стан тагачаснай гістарычнай навукі ў Беларусі і прадставілі грамадству сваё бачанне шляхоў выйсця з крызісу ў гістарычнай навуцы. Яны прапанавалі адмовіцца ад міфаў у гістарычнай навуцы ў Беларусі, створаных за савецкі перыяд і ў царскай Расіі, гісторыкам не грэбаваць тэорыяй гістарычнай навукі, у тым ліку тэорыяй і методыкай гістарыяграфіі і крыніцазнаўства, не займацца пералікам фактаў і падзей, а рабіць неабходныя высновы на ўзроўні патрабаванняў да навуковых прац, як гэта робіцца ў іншых краінах. Толькі ў гэтым А.І. Мальдзіс, В.П. Грыцкевіч і А.П. Грыцкевіч бачылі магчымасць падняць узровень дасведчанасці беларускіх гісторыкаў, адысці ад савецкага, камуністычнага дагматызму.

З вялікай цяжкасцю гэтыя тры аўтары здолелі надрукаваць свой артыкул "Няўжо "забароненая зона?" у малавядомым (у Беларусі яго мала хто чытаў) маскоўскім часопісе "Советское славяноведение" (1988, №3). У двух асноўных гістарычных часопісах агульнасаюзнага маштабу "Вопросы истории" і "История СССР" гэты артыкул друкаваць адмовіліся. Пра Беларусь і ўвогуле гаворкі не было: гістарычнага часопісу тут не было, а ў іншых часопісах ці газетах, падпарадкаваных ЦК КПБ, ніхто б друкаваць бы гэты артыкул не ўзяўся.

Тры аўтары ў сваім артыкуле разгледзелі толькі стан навукі, якая вывучала гісторыю Беларусі феадальнага перыяду. Яны адзначылі, што сярод гісторыкаў разглядаліся галоўным чынам гістарычна-эканамічныя пытанні, бо такім чынам лягчэй было ўцякаць ад пытанняў гістарычна-палітычных. Аўтары абверглі сцвярджэнні дактароў навук з інстытуту гісторыі З.Ю. Капыскага і В.І. Мялешкі, якія ў артыкуле "Фактам насуперак", (у газеце "Советская Белоруссия, 1987, 28 ліпеня) "далі адпор" гэтым тром "аўтарам-нацыяналістам" і па сутнасці сцвярджалі, што быццам бы ўсё, напісаннае гісторыкамі Беларусі па феадальным перыядзе, знаходзіцца на добрым узроўні і застаецца зонай па-за крытыкай.

Тады ж, у чэрвені 1989 г., А.П. Грыцкевіч выступіў з дакладам, прачытаным на рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі "Народ. Культура. Перабудова" ў Палацы прафсаюзаў. На гэтай канферэнцыі, што цікава, у асноўным прысутнічалі сакратары гаркамаў і райкамаў кампартыі Беларусі (кіраўнічай у краіне). Даклад называўся "Прынцыпы і факты: Вытокі дагматычнага падыходу да гісторыі Беларусі феадальнага перыяду". Даклад быў надрукаваны ў газеце "Літаратура і мастацтва" 29 верасня 1989 г., а ў 1991 г. палажэнні даклада былі апублікаваныя ў артыкуле "Карані і кветкі дагматызму" у зборніку артыкулаў "З гісторыяй на "Вы" (Мінск, Мастацкая літаратура), другая частка дакладу ўвайшла ў артыкул "Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс пра Беларусь" у тым жа зборніку).

У артыкуле аўтар прааналізаваў "Тэзісы ў асноўных пытаннях гісторыі БССР", апублікаваныя ў 8-м нумары часопіса "Большэвік Беларусі" за 1948 год, распрацаваныя калектывам аўтараў пад эгідай ЦК КПБ. якія сталіся "кананічнымі", абавязковымі для ўсіх савецкіх гісторыкаў БССР, якія даследавалі гісторыю Беларусі дасавецкага перыяду.

Аўтар даклада зазначыў, што ў "Тэзісах", якія былі вытрыманы ў баявым і нават ваяўнічым стылі, шмат увагі надавалася барацьбе з "беларускімі нацыяналістамі". Увесь кірунак "Тэзісаў" меў не навуковы, а палітычны характар. Пры гэтым у тэксце "Тэзісаў" былі наўпроставыя выпады супраць "панскай Польшчы" (у дачыненні да падзей XVI-XVIII стагоддзяў) і агрэсіўнай Літвы, якая, маўляў, захапіла Беларусь і працягвала сваю агрэсію супраць Вялікага Княства Маскоўскага. На такую пазіцыю аўтараў "Тэзісаў" уплывала знешняя палітыка Сталіна ў 30-х гадах калі Польшча і Літва былі буржуазнымі, а значыць варожымі для СССР дзяржавамі, і гісторыкам трэба было прытрымлівацца прынцыпу: "История - это политика, опрокинутая в прошлое" і даказваць спрадвечную варожасць гэтых дзяржаў да беларускага і рускага народаў.

У выкрыцці "варожых вымыслаў" аўтары "Тэзісаў" не лічыліся з гістарыяграфіяй. Так, напрыклад, яны заяўлялі: "Сцвярджэнне беларускіх нацыяналістаў аб тым, што насельніцтва заходніх абласцей Русі быццам бы добраахвотна прызнала над сабой уладу літоўскіх князёў і бачыла ў іх абаронцаў ад татарскай няволі, не вытрымлівае гістарычнай крытыкі" (с.42). Аднак пра гэта гаварылі яшчэ дарэвалюцыйныя расійскія дваранскія і буржуазныя гісторыкі, а ў канцы XIX ст. пра гэта сказаў Ф. Энгельс: "У той час, калі Вялікаросія трапіла пад мангольскі прыгнёт, Беларусь і Маларосія знайшлі сабе абарону ад азіяцкага нашэсця, далучыўшыся да так званага Літоўскага княства. Гэтае княства пазней добраахвотна аб'ядналася з Польшчай" (Энгельс Ф. Внешняя политика русского царизма // Маркс К., Энгельс Ф. Сочинение 2-е изд. Том 22. С. 18-19).

Аўтары ж "Тэзісаў" мелі на гэта свой погляд: "У 1569 годзе польскія паны дабіліся заключэння люблінскай уніі, па якой Літоўскае княства, а значыцца і Беларусь былі ўключаны ў склад польскай Рэчы Паспалітай (С.45) і трапілі пад уладу панскай Польшчы".

Як вядома, Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс рэзка крытыкавалі Расію за захоп у канцы XVIII ст. тэрыторыі Беларусі. К. Маркс падрабязна пісаў пра гэта ў сваёй працы "Выкрыццё дыпламатычнай гісторыі XVIII стагоддзя". Ф. Энгельс адзначыў, што падзелы Рэчы Паспалітай у канцы XVIII ст. адбыліся з ініцыятывы расійскай імператрыцы Кацярыны II: "І хоць Прусія спахапілася і патрабавала на гэты раз больш значнай долі ў рабаванні Польшчы, хоць Аўстрыі прыйшлося выдзеліць кавалак Польшчы, але ўсё ж ільвіная доля здабычы зноў - такі дасталася Кацярыне. Амаль уся Беларусь і Маларосія былі цяпер уз'яднаныя з Вялікаросіяй" (Маркс К., Энгельс Ф. Сочинения. 2-е изд. Том 22, с.18).

Такую характарыстыку падзелаў Рэчы Паспалітай ў канцы XVIII ст. Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй цалкам падтрымаў У.І. Ленін, які ў траўні 1917 г. у лекцыі "Вайна і рэвалюцыя" сказаў пра трох манархаў, што падзялілі Рэч Паспалітую: "Курляндыю і Польшчу яны разам дзялілі, гэтыя тры каранаваныя разбойнікі. Яны дзялілі сто гадоў, яны рвалі па жывым мясе, і рускі разбойнік урваў болей, бо быў тады мацнейшы" (Ленин. В. И. Полное собрание сочинения. Том 32.с.89-90).

Насуперак выказванням К. Маркса, Ф. Энгельса і У. Леніна, аўтары "Тэзісаў" у "Большэвіку Беларусі" станоўча ацэньвалі падзелы Рэчы Паспалітай і захоп Беларусі Расіяй, бо такая ж палітыка праводзілася і Сталіным. Яны, як і іншыя савецкія гісторыкі, намагаліся апраўдаць ліквідацыю Польскай дзяржавы ў 1939 г., якая, паводле слоў старшыні Саўнаркама і наркама замежных спраў СССР В.М. Молатава, з'яўлялася "пачварным спараджэннем Версальскага дагавору" і была ліквідавана "ўдарам германскай арміі з аднаго боку і Чырвонай арміі з другога" (Известия, 1939, 1 ноября).




**Ала Нароўская, Анатоль Грыцкевіч і Віталь Скалабан у Музеі пад адкрытым небам. Травень, 2003 г.**

Яшчэ адзін міф савецкага перыяду патрабаваў абвяржэння. Усе савецкія гісторыкі ў Беларусі сцвярджалі, не прыводзячы ніякіх фактаў і доказаў, што беларускі народ у XV-XVIII стагоддзях увесь час імкнуўся звергнуць ненавісны прыгнёт літоўскіх феадалаў, а потым польскіх паноў, каб далучыцца да Маскоўскага вялікага княства, а потым да Расійскай дзяржавы. Пры гэтым была ўведзена маскоўска-цэнтрысцкая канцэнцыя (Масква як цэнтр славян) гісторыя Беларусі. Усё гэта адпавядала вершыку Сяргея Міхалкова: ***"Всем известно, что Земля начинается с Кремля".***

Гэта значыць, што гісторыя Беларусі цалкам разглядалася скрозь прызму гісторыі Расіі, а Беларусь - як правінцыя Расіі. Менавіта ў савецкі пасляваенны час распрацоўвалася ідэя панславізму (якая ў цяперашняй Расіі набывае ўсё большае гучанне) з антынацыянальнымі, антыбеларускімі ідэямі, скіраваная на ліквідацыю дзяржаўнасці Беларусі на карысць Расіі, беларускай мовы - на карысць рускай мовы, пазбаўлення беларусаў гістарычнай свядомасці, сваёй нацыянальнай культуры.

Аднак спроба спыніць ход гісторыі і павярнуць гісторыю назад не можа скончыцца поспехам. Немагчыма прыпыніць развіццё навукі адміністрацыйнымі ўказамі і распараджэннямі. За некалькі гадоў незалежнасці Рэспублікі Беларусь былі зроблены значныя крокі ў адраджэнні гісторыі нашай краіны.

Былі вернуты з нябыту забароненыя творы рэпрасаваных гісторыкаў. У 1991 г. была выдадзена кніга У.М. Ігнатоўскага "Кароткі нарыс гісторыі Беларусі", у 1992 г. - "Кароткая гісторыя Беларусі" В. Ю. Ластоўскага, у 1993 г. - "Беларусь учоры і сяньня" Я.Найдзюка і І.Касяка, кнігі Міколы Ермаловіча. У падрыхтоўцы гэтых кніг да друку прымаў удзел і аўтар гэтага артыкула (прадмовы або пасляслоўі). За гады незалежнасці выдадзены дзесяткі манаграфій, многія сотні артыкулаў толькі па феадальнаму перыяду гісторыі Беларусі. Шмат зроблена ў энцыклапедычных выданнях.

У апошнія гады сілы, падпарадкаваныя ідэі аб'яднання Беларуі з Расіяй (больш правільна - інкарпарацыі беларускіх абласцей у склад Расіі), робяць усе захады, каб аднавіць старыя погляды імперскіх гісторыкаў, нанава перагледзець гісторыю Беларусі. Але як бы я ны не фальшавалі гісторыю, усё роўна гістарычная праўда застанецца ў свядомасці людзей.

Ідэі незалежнасці Беларусі, якія ажыццявіліся пры абвяшчэнні незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 года, трывала ўвайшлі ў набытак нашага народа. Далейшае развіццё ідэя незалежнасці атрымала пры абвяшчэнні "Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР" 27 ліпеня 1990 г. і наданні Дэкларацыі статусу канстытуцыйнага закону 25 жніўня 1991 г. 29 ліпеня 2000 г. дэлегаты Усебеларускага з'езду за незалежнасць паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі, прынялі Акт незалежнасці Беларусі, у якім абвясцілі незалежнасць і суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа і рызналі не маючым законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі.

Самастойнасць і незалежнасць нашай краіны гарантуюць грамадзянам Беларусі захаванне сваёй нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі, як гэта ёсць у кожнай незалежнай дзяржаве.

*Анатоль Грыцкевіч.*

# Антону Луцкевічу - 120



ЛУЦКЕВІЧ Антон Іванавіч (17(29). 1.1884, г. Шаўлі Ковенскай губ., цяпер г. Шаўляй, Літва -?), бел. паліт. і грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст, літ. крытык. Паходзіў з шляхецкага роду герба "Навіна" Брат І. І. Луцкевіча. Скончыў Менскую гімназію (1902). Вучыўся на фіз-матэм. ф-це Пецярбургскага, юрыд. ф-це Дэрпцкага (цяпер Тартускі) ун-таў. У 1903 адзін з заснавальнікаў Беларускай рэвалюцыйнай грамады і аўтараў яе праграмы. У 1904 за распаўсюджванне парт. л-ры арыштаваны ў Менску. Выпушчаны з прадпісаннем не пакідаць горад. На II з'ездзе Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ, 1905, Менск) абраны чл. яе ЦК. Удзельнік рэвалюцыі 1905-07. У лют. 1906 перайшоў на нелегальнае становішча, пераехаў у Вільню. Удзельнічаў у наладжванні выпуску газет "Наша доля" і "Наша ніва", уваходзіў у склад іх рэдакцый. Супрацоўнічаў з выдвам "Нашай нівы", з 1913 з Бел. выдавецкім т-вам. З 1911 саўладальнік Віленскай бібліятэкі-чытальні "Веды" Б. Даніловіча, з 1914 яе ўладальнік. Пасля акупацыі ў 1915 Вільні і ч. Беларусі ням. войскамі ўзначальваў Беларускае гаварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Адзін з выдаўцоў і аўтараў газ. "Гоман". У 1915 з братам, паэтэсай Цёткай (А.Пашкевіч) і інш. марксістамі засн. Беларускую сацыял-дэмакратычную работніцкую групу (БСДРГ), узначаліў Беларускі народны камітэт (БНК). Адзін з ініцыятараў Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага. У 1916 БНК ухваліў яго канцэпцыю Злучаных Штатаў ад Балтыйскага да Чорнага мора. Пасля Лют. рэв. 1917 выказваўся за ўключэнне ў склад будучай бел.-літ. дзяржавы ўсіх бел. зямель, за наданне дзярж. статусу ўсім мясц. мовам, школьнае навучанне на роднай мове. На Беларускай канферэнцыі 1918 абраны старшынём Віленскай беларускай рады (ВБР). 18.3.1918 кааптаваны ад ВБР у склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, ініцыятар абвяшчэння незалежнасці БНР. Пасля расколу БСГ адзін са стваральнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (БСДП). У вер. 1918 прызначаны Радай БНР старшынём Нар. Сакратарыяту і нар. сакратаром замежных спраў (з кастр. 1918 Старшыня Рады Народных Міністраў і міністр замежных спраў БНР). У вер. – пач. кастр. 1918 узначальваў бел. надзвычайную дэлегацыю, якая наведала Украіну, сустракалася з гетманам П. П. Скарападскім. 3.12.1918 Рада і ўрад БНР на чале Л. пераехалі ў Вільню, 27 снеж. – у Горадню. 14.12.1918. 2.1 і 3.1.1919 Л. накіраваў ноты пратэсту польск. ураду супраць далучэння да Польшчы Беластоцкага, Бельскга і Аўгустоўскага пав. У канцы сак. 1919 перад пагрозай польск. акупацыі Гарадзеншчыны і Віленшчыны Л. і некат. чл. Ўрада БНР выехалі ў Берлін. Дамагаўся таго, каб прадстаўнікі БНР прынялі ўдзел у Парыжскай мірнай канферэнцыі. У Берліне склаў мемарандум, які быў уручаны старшыні канфэрэнцыі. Па запрашэнні міністра-прэзідэнта Польшчы. І. Падарэўскага выехаў з Парыжа ў Варшаву, дзе ў пач. вер. 1919 быў інтэрнаваны. 1.12.1919. вярнуўся ў Менск. Пасля расколу Рады БНР 13.12. 1919 Старшыня Рады Міністраў Найвышэйшай Рады БНР. Не знайшоўшы паразумення з Польшчай, 28.2. 1920 падаў у адстаўку і выехаў у Вільню. Там аднавіў выданне газ. "Наша ніва" (выйшла 9 нумароў), да канца 1920 склаў і выдаў зб-кі "Наша ніва" і "Памяці Івана Луцкевіча". У ліп. –жн. 1920 у бальшавіцкай турме. З 1921 старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. Выкладаў у Віленскай бел. гімназіі. У ліп. 1921 засн. Бел. школьную раду, якая пазней злілася з Таварыствам беларускай школы (ТБШ). Яго намаганнямі пры Беларускім навуковым таварыстве (БНТ) у 1921 адкрыты Беларускі музей імя І. Луцкевіча. Узначальваў Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт, распрацаваў тактыку і структуру Беларускага пасольсткага клуба. Пасля ўтварэння ў 1925 Беларускай сялянска-работніцкай грамады працаваў у яе рэд. к-це, куды быў запрошаны С.А.Рак-Міхайлоўскім. У кастр. 1927 арыштаваны польск. уладамі. Абвінавачаны ў супрацоўніцтве з ням. і сав. выведкай. У пач. 1928 апраўданы судом. У 1928 зноў арыштаваны і апраўданы. У сярэдзіне 1929 Л. выключаны з ТБШ, дзе камуністы мелі моцныя пазіцыі. Адзін са стваральнікаў Цэнтральнага саюза культурных і гаспадарчых арганізацый (Цэнтрасаюза), які адмаўляў рэв. метады змагання з санацыйным рэжымам Ю. Пілсудскага і выступаў за парламенцкія метады барацьбы. Незадавальненне КПЗБ выклікала крытыка Л. нац. і агр. палітыкі, якую сав. кіраўніцтва пачало ў 1929. асабліва арт. "Цень Азефа" (1930), дзе ён даў рэзка адмоўную характарыстыку І. Сталіну і яго акружэнню. У 1930 польск. улады забаранілі дзейнасць Бел. выдавецкага т-ва, якім кіраваў Л., у 1931 яго звольнілі з працы ў Віленскай бел. гімназіі. Асоба Л. стала аб'ектам паліт. спекуляцый і нападаў. У гэты час выявіліся супярэчнасці паміж лідарамі Цэнтрасаюза. Яго старшыня Ф. Акінчыц крытыкаваў Л. за марксісцкі светапогляд. З абвінавачваннямі Л. ў паліт. праліках выступілі ў друку і хрысціянскія дэмакраты. У 1933-39 бел. газеты не друкавалі Л. Выступаў пераважна ў газ. "Przeglad Wilenski" ("Віленскі агляд"), час. "Калоссе", "Гадавіку" Беларускага навуковага таварыства. Адышоў ад пал. дзейнасці, працаваў у БНТ і Бел. музеі, выступаў з лекцыямі і рэфератамі. Пасля вызвалення Зах. Беларусі Чырв. Арміяй яго запрасілі на сход бел. інтэлігенцыі. 3.09. 1939 Л. арыштаваны і этапаваны ў Менск. Па рашэнні Асобай нарады пры НКУС СССР прыгавораны да 6 гадоў зняволення. Паводле афіцй. версіі памёр у Сяміпалацінскай вобл. (Казахстан) у 1946. Рэабілітаваны ў 1989.

Першы артыкул "Што будзе?" надрукаваў у газ. "Наша доля" (1996. № 1) Стаў вядучым бел. публіцыстам (літ. псеўд. А. Іванов, Антон Беларус, Генрык Букавецкі. І. Мялешка. Антон Навіна і інш.). У артыкулах і нататках пач. 20 ст. крытыкаваў агр. і нац. палітыку царызму. Выказваўся за сац. і нац. вызваленне бел. народа, асуджаў нацыяналізм ("Краёвае становішча". 1914). Развіццё бел. вызв. руху звязваў з развіццём капіталіст. адносін і станаўленнем нац. буржуазіі ("Эканамічная эвалюцыя і беларускі рух", 1917) Склаў курсы лекцый па фанетыцы і этымалогіі. У 1917 выдаў працу "Як правільна пісаць пабеларуску", у 1918 (разам з Я. Станкевічам) – "Беларускі правапіс". Аўтар брашуры "Польская акупацыя на Беларусі" (1920), працы "За дванцаць пяць гадоў (1903-1928)" (1928, прысвечана гісторыі БРГ і БСГ). Даследаваў гісторыю нарадавольніцкага руху. Выступаў з дакладамі і рэфератамі па гэтым пытанні. Вывучаў мову скарынаўскіх выданяў і першы Статут ВКЛ ("Чатырохсотлецце першага кодэксу беларускага права", 1929. "Статут В. Кн. Літоўскага на фоне эвалюцыі нацыянальных адносін у Беларусі". 1930. і інш.). Аўтар зб-каў. многіх літ.-крытычных прац .

*Анатоль Сідарэвіч.*

**Зарэгістравана ў Нацыянальным рэестры прававых актаў Рэспублікі Беларусь 10 лістапада 2003 г. № 9\3013**

## Рашэнне Мінскага абласнога Савета дэпутатаў 25 верасня 2003 г. № 26

## Аб зацверджанні Абласной праграмы развіцця адукацыі на 2003 – 2006 гг.

**Мінскі абласны Савет дэпутатаў вырашыў:**

1. Зацвердзіць дадаваную Абласную праграму развіцця адукацыі на 2003-2006 гады.
2. Зацвердзіць мерапрыемствы па развіцці адукацыі згодна з дадаткам.
3. Камітэтам, упраўленням і аддзелам Мінскага абласнога выканаўчага камітэта, абласным арганізацыям, раённым і гарадскім выканаўчым камітэтам забяспечыць выкананне Абласной праграмы развіцця адукацыі на 2003-2006 гг.
4. Раённым і гарадскім Саветам дэпутатаў распрацаваць і зацвердзіць тэрытарыяльныя праграмы развіцця адукацыі.
5. Кантроль за выкананнем гэтага рашэння ўскласці на пастаянную камісію Мінскага абласнога Савета дэпутатаў па развіцці сацыяльнай сферы, упраўленне адукацыі Мінскага абласнога выканаўчага камітэта (Данілевіч Т.І.).

**Старшыня А. А. Кузняцоў.**

*Дадатак да рашэння Мінскага абласнога Савета дэпутатаў 25.09.2003. № 26*

## Мерапрыемствы па развіцці адукацыі

| Змест мерапрыемстваў | Тэрмін выканання | Крыніца фінансавання | Выканаўцы |
|---|---|---|---|
| 2.7. Адкрыць у кожным раённым цэнтры і горадзе дашкольныя ўстановы з беларускай мовай навучання і выхавання. | Да 2006 года | Мясцовыя бюджэты (у межах сродкаў, прадугледжаных бюджэтам) | Райгарвыканкамы |
| 2.11. У мэтах пашырэння сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі, далучэння вучняў да беларускай нацыянальнай культуры ў кожным раённым цэнтры, горадзе адкрыць не менш адной школы (гімназіі) з беларускай мовай навучання; павялічыць колькасць школ і класаў з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры; стварыць ў гарадах і раённых цэнтрах вобласці апорныя школы з гэтым ухілам; штогод прысвойваць лепшым школам ганаровае званне "Узорная беларуская школа", ажыццявіць паступовы пераход на беларускую мову візуальнай інфармацыі ў навучальна-выхаваўчых установах, а таксама вядзенне справаводства на беларускай мове. | Да 2006 года | Абласны, мясцовыя бюджэты (у межах сродкаў, прадугледжаных бюджэтам) | Упраўленне адукацыі аблвыканкаму, аддзелы адукацыі райгарвыканкамаў |
| 2.33. Ува ўсіх ПТВ сельскагаспадарчага прафілю, ПТВ, якія рыхтуюць кадры для гандлю, грамадскага харчавання бытавога абслугоўвання, транспарту, лёгкай прамысловасці, машынабудавання адкрыць аддзяленні для навучання на беларускай мове па прыярытэтных прафесіях. | III квартал 2005 года | Абласны бюджэт (у межах сродкаў, прадугледжаных бюджэтам) | Упраўленне адукацыі аблвыканкам |



Дом майстра-ўмельца можна пазнаць здалёк. Усё жыццё адпрацаваў інспектарам-кадравікам Максім Іосіфавіч Барэйша з вёскі Немяржа Драгічынскага раёна, а як выйшаў на пенсію, змайстраваў такарны станок і даў волю рукам - рознай точанай мэблі нарабіў, разнымі вырабамі дом упрыгожыў.

*Фота Рамана Кабяка, БелТА.*

Ванда Грамбецкая

# Батанік Вялікага Княства

## Станіслаў Баніфацы Юндзіл (Дунін-Юндзіл, 1761-1847)

*(Пачатак у папярэднім нумары.)*

Сяброўсва і знаёмствы прадоўжыліся і пазней. Гэтыя людзі спрабавалі дапамагчы батаніку ўладкаваць прафесійныя справы, прапануючы плябыніі ў сваіх маёнтках. Прапанавалі яму працу і ў Вене. Аднак Юндзіл нястомна імкнуўся да вяртання ў Вільню, каб заняць доўгачаканую пасаду ва універсітэце. Калі ён ужо ажыццявіў гэта, венскія знаёмыя дапамагалі яму ў найбольш цяжкія першыя гады арганізацыі працы ва універсітэцкім батанічным садзе, падтрымліваючы новага прафесара насеннем і саджанцамі са сваіх садоў.

Станіслаў Баніфацы Юндзіл вярнуўся ў Вільню як усебакова адукаваны прыродазнаўца і апантаны фларыст. З цягам часу ён стаў вельмі добрым знаўцам сістэмы Лінея, якому застаўся верны ў сваіх працах і дзейнасці ў садзе, але перад усім – вельмі добрым знаўцам садоўніцтва, якому вучыўся на найлепшых прыкладах. Вучоба за мяжой напоўніла яго шматгадовую ўласную вучобу і дазволіла атрымаць кваліфікацыі ва ўсіх галінах прародазнаўства. Аднак далейшыя гады жыцця прысвяціў ён свайму замілаванню – навучанню батанікі і батанічнаму саду Віленскага універсітэта.




*Батанічны сад на плане Вільні (каля 1840 г.)*

**3. У служэнні універсітэту**

Станіслаў Баніфацы Юндзіл пачаў свае лекцыі батанікі ў 1798 г. яшчэ ў Галоўнай Літоўскай Школе – так пасля падзелу і далучэння гэтых зямель да Расійскай імперыі называлася Галоўная Школа Вялікага княства Літоўскага. Скончыў ён працу і перадаў кафедру свайму пераемніку ў 1823 г. У першым перыядзе вучоны працаваў як віцапрафесар, а кафедрай загадваў тагачасны папярэднік Ст. Б. Юндзіла – Фердынанд Спіцнагель. Самастойнасць Юндзіл атрымаў у 1802 годзе (асобны курс батанікі, у той жа час аддзялілі кафедру мінералогіі), а з 1803 года ён быў прафесарам у рэфармаваным Аляксандрам I Віленскім універсітэце. Яго праца як выкладчыка доўжылася, такім чынам, 25 гадоў. Вывучэнне прыродазнаўчых навук было абавязковым, як для будучых настаўнікаў, так і медыкаў. Таму не дзіўна, што ўсе вядомыя прыродазнаўцы універсітэта былі вучнямі Юндзіла. З захаваўшыхся спісаў студэнтаў можна даведацца, як шмат меў ён слухачоў і як шмат выпускнікоў універсітэта мела ў сваіх студэнцкіх дакументах пасведчанне аб здадзеным экзамене з характэрным подпісам – X.Jundziii.

У сваім навучанні ён абапіраўся на лекцыі – што зразумела - і на працы ў батанічным садзе, які быў для яго крыніцай экземпляраў для паказу падчас лекцый і асноўным месцам працы студэнта. Вучоны лічыў, што гэты сад павінен служыць выключна дыдактыцы і таму на працягу ўсёй сваёй прафесарскай дзейнасці быў супраць праектаў навязвання універсітэцкаму саду функцый гарадскога парку. Ён неаднаразова пісаў, што сад павінен служыць выключна "навучанню моладзі". Аднак калі меркаваць па маляўніча апісаных у "Дзённіку" і працы "Кабінет прыродазнаўства і батанічны сад Віленскага універсітэта" прыгодах з самавольнымі наведвальнікамі, якія карысталіся сваёй грамадскай ці адміністрацыйнай пазіцыяй, гэта было цяжкай справай. Гэтыя людзі ставіліся да універсітэцкага саду, як да крыніцы нелегальна набытых кветак і іншых раслін або месца не заўсёды культурных уцех. Шмат непакою і клопатаў прыносіла такая публіка Юндзілу, бо знішчала з цяжкасцю выгадаваныя калекцыі, а часам і ўнікальныя экземпляры, атрыманыя вялікімі намаганнямі ад замежных карэспандэнтаў. Аднак ён здолеў утрымаць сваю дыдактычную ўстанову – сад у належным стане і выкарыстоўваць яго выключна ў запланаваных ім мэтах.



**Аўтограф Ст. Б. Юндзіла - пасведчанне аб здадзеным экзамене**

Пасля вяртання са шматгадовага замежнага падарожжа Юндзіл, пачынаючы прафесарскую працу, сфармуляваў сваю праграму навучання прыродазнаўству і месца ў ёй батанікі. Нельга забываць, што арганізацыя кафедры прыродазнаўства навязвала яму таксама лекцыі па заалогіі, якія толькі ў больш позні час пераняў нехта іншы. Свае намеры, якія датычылі зместу і метадаў навучання, вучоны апублікаваў у выдаваным універсітэтам спісе лекцый "Prospektus lektionene" на 1802/1803 акадэмічны год. З яго можна даведацца, што расклад заняткаў быў наступны: зімой выкладаліся тэарэтычныя часткі батанікі, перш за ўсё агульныя звесткі пра жыццё раслін (так званая фізіялогія раслін), правілы ўтварэння класіфікацыйных сістэм, якія выкарыстоўваліся ў тыя часы, і адпаведная тэрміналогія. Вясновыя і летнія месяцы прысвячаліся працы ў садзе і навакольных лясных і лугавых абшарах. Такім чынам студэнты вывучалі расліны з усяго свету, наколькі дазвалялі гэта калекцыі віленскага саду, а на экскурсіях (якія называліся тады гербарызацыямі) – мясцовыя расліны і набывалі практычныя ўменні іх распазнавання і адзначэння. Веданне асноў класіфікацыі Юндзіл лічыў вельмі важным для ўсіх прыродазнаўцаў. Неаднойчы ён прыводзіў прыклад вядомага сцвярджэння, што сістэма з'яўляецца шляхаводнай ніткай (ніткай Арыядны) батаніка ў яго падарожжы ў бязмерным свеце раслін на зямным шары. У шматлікіх артыкулах і ўводзінах да сваіх прац ён даказваў, што веданне батанікі і сістэмнасці, разам з лацінскімі назвамі відаў, з'яўляецца абавязковым для садаводаў, земляробаў, фармацэўтаў. Асабліва вучоны цаніў, як прыгадвалася ўжо пры апісанні венскай вучобы, сістэму Лінея. Юндзіл пісаў ва ўводзінах да "Апісання раслін, 1791", што вучоныя, якія працавалі над самымі адлеглымі краінамі, карысталіся гэтай сістэмай. Вялікае значэнне прыпісвалася таксама, згодна з тагачаснымі канонамі вывучэння батанікі, веданню мясцовых раслін – як тых, што паўсюль сустракаліся ў нашай прыродзе, так і ўменню правільна пазначаць тыя, што сустрэліся ўпершыню. Акрамя таго ў сваёй праграме Юндзіл пашырыў курс батанікі новымі раздзеламі – фізіялогія раслін і гісторыя дысцыпліны. Абедзве гэтыя тэмы асабліва яго цікавілі. Ужо ў Вільні, а потым у Вене, ён вывучаў хімію, што дапамагло ў пазнанні навейшых навуковых дасягненняў у гэтай галіне і прадстаўленню на лекцыях апісання жыцця раслін наватарскім метадам з выкарыстаннем тэарэтычных набыткаў хіміі. Мог вучоны і сачыць за прагрэсам у гэтай галіне. Фізіялогія ў выкладах Юндзіла гаварыла пра сілкаванне раслін, дыханне, рост і размнажэнне, уплыў глебы і свету на іх жыццё. Ён увёў таксама элементы ведаў пра хваробы раслін (сучасная фітапаталогія). Дарэчы, гэтым ён адрозніваўся ад сваіх вядомых папярэднікаў – кіраўнікоў кафедры прыродазнаўства ў Вільні – Жылібера і Фарстэра. Прадстаўленая новым прафесарам праграма закладала, такім чынам, знаёмства з дасягненнямі хіміі. Віленскі студэнт пасля дакладнага азнаямлення (зімой) з ведамі пра жыццё раслін і авалодання тэрміналогіяй, а таксама пасля азнаямлення са спосабам карыстання сістэмай Лінея распачынаў практычныя заняткі ў садзе і на экскурсіях. Такі стыль навучання Юндзіл працягваў увесь час, мадэрнізуючы выключна змест навучання.



*Панарама батанічнага саду ў Вільні каля 1840 г.*

Дзейнасць віленскага прафесара і вынікі яго працы прадстаўлены ў шматлікіх дакументах. У "Дзённіку" ён апісвае свае першыя крокі і ўмовы, у якія трапіў – зусім не падобныя да яго ўяўленняў пра арганізацыю сучаснай кафедры. Аднак, не знеахвочаны перашкодамі, ён пачынае паволі, ад пачатку, арганізоўваць сваё месца працы, займаючыся аднaчасова і заалагічнымі калекцыямі, і гербарыямі, і батанічным садам. Юндзіл пачынае гаспадараваць на прыналежных універсітэту тэрыторыях, што ляжалі каля Вілейкі на ўскрайку горада (тады, а зараз гэта цэнтр) – Саракішках. Пра вынікі яго працы сведчыць стан батанічнага саду, даступнасць і ўпарадкаванне кабінета прыродазнаўства, які быў аддадзены пад яго нагляд, рапарты пра працу, што прадстаўляліся штогадова універсітэту, а таксама экзаменацыйныя пытанні, якія адлюстроўвалі ўзровень ведаў пра батаніку, неабходных для выпускнікоў універсітэта. Юндзіл экзаменаваў па батаніцы на розных узроўнях вучобы. Акрамя звычайных курсавых экзаменаў для студэнтаў першых курсаў ён прымаў экзамены на навуковыя ступені: кандыдата, магістра і доктара, а таксама ў кандыдатаў на "настаўніцкую пасаду" і ўрачоў, якія хацелі, каб атрыманы імі ў замежных універсітэтах дыплом быў актуальны на тэрыторыі Расійскай імперыі. Гэты працэс, які называўся нострыфікацыяй дыплома, быў неабходны для адкрыцця ўрачэбнай практыкі і выкарыстоўваўся ва ўсёй Еўропе ў сувязі з рознымі праграмамі і канцэпцыямі навучання ў розных універсітэтах. Асабліва цікавымі былі пытанні для "кандыдатаў на настаўніцкую пасаду", якія адлюстроўвалі змест лекцый і аб'ём неабходных ведаў, які быў вельмі шырокі – ад практычных пытанняў, патрэбных у садоўніцтве і медыцыне, да больш тэарэтычных, якія датычылі будовы, фізіялогіі і класіфікацыі раслін. Правяралася і веданне сістэмы Лінея, і больш новых сістэм – усё згодна прадстаўленай праграмы. Праграмы для студэнтаў другога і трэцяга курсаў адрозніваліся па цяжкасці. Пытанні, якія ставіў Ст.Б.Юндзіл будучым настаўнікам, былі на высокім узроўні. Яны былі розныя для кожнага курса і змяшчалі як новыя кірункі даследванняў у батаніцы, так і яе гісторыю. Настаўнікі – вучні віленскага батаніка былі добра падрыхтаваныя да сваёй працы ў школах усёй школьнай акругі. Сярэднія школы былі і далей арганізаваныя паводле распрацаванай Камісіяй Нацыянальнай Адукацыі сістэмы і адміністрацыйна падпарадкоўваліся універсітэту.

**Ванда Грамбецкая**

# Батанік Вялікага Княства

## Станіслаў Баніфацы Юндзіл (Дунін-Юндзіл, 1761-1847)

Падрыхтоўка настаўнікаў – побач з іншымі спецыялістамі – была асноўнай задачай універсітэта. Высокі і сучасны ўзровень лекцый па асобных прадметах спрыяў высокаму ўзроўню школьнай польскай адукацый на тэрыторыях так званых Заходніх губерняў Расійскай імперыі – сённяшняй Літве, Беларусі і Украіне. Гэтыя тэрыторыі ў тыя часы былі ў зоне дзейнасці Віленскага універсітэта. Настаўніцкія праблемы былі Юндзілу асабліва блізкімі, таму што з 1807 г. ён шмат гадоў быў прэфектам кандыдатаў на настаўніцкую пасаду (дырэктарам інтэрната для студэнтаў - стыпендыятаў).

З часу атрымання кафедры Станіслаў Баніфацы Юндзіл дасягаў ва універсітэце чарговых навуковых ступеняў. Асабліва важным было атрыманне ў 1798 г. ступені доктара філасофіі, таму што гэта было абавязковай умовай для атрымання прафесарскага звання і дазваляла самастойныя лекцыі. У 1800 г. ён напісаў доктарскую працу з тэалогіі, што дазволіла яму атрымоўваць розныя пасады ва універсітэце, нават тыя, якія не былі звязаны з яго кваліфікацыямі. На працягу ўсяго перыяду яго прафесарскай дзейнасці ён прымаў актыўны ўдзел у арганізацыйнай працы універсітэта. Неаднаразова рабіў даклады па навуковых пытаннях, рэцэнзаваў праекты набыцця новых экземпляраў у калекцыі, быў сябрам шматлікіх камісій, дакладваў пра актуальныя праблемы на паседжаннях. Быў таксама і адным з заснавальнікаў, і актыўным аўтарам важнага перыёдыку "Віленская газета", у якой надрукаваў шмат каштоўных артыкулаў, якія датычылі розных біялагічных праблем. Паміж іншым на старонках гэтага перыядычнага выдання ён выказваўся пра неабходнасць ведання батанікі для рознага тыпу спецыялістаў (напр., "Пра неабходнасць складанай наменклатуры ў прыродазнаўчых прадметах"/: Віленская газета, 1805). Станіслаў Баніфацы Юндзіл часта выконваў спецыяльныя заданні, даручаныя яму рэктарамі. Найбольш важнымі з іх былі экспертызы, якія датычылі пошуку мінеральнай сыравіны. Гэта было вельмі патрэбным для тагачаснай гаспадаркі. Паўночна-ўсходнія землі, якія апынуліся пад расійскім панаваннем, былі адрэзаны ад крыніц неабходнай сыравіны, паклады якой засталіся пад панаваннем аўстрыяцкім. Асабліва гэта датычыла солі, якую шукалі перад усім у салёных крыніцах, а таксама пакладаў матэрыялаў, што давалі энергію. Таму вывучалася кожнае данясенне аб магчымых пакладах торфу і салёных крыніцах. Універсітэт павінен быў праверыць верагоднасць такіх інфармацый, а таксама вызначыць магчымасці атрымання прадукту і від выкарыстанай тэхналогіі. Найважнейшай зробленай Юндзілам экспертызай было даследванне солі ў Стаклішках. Падарожжа ў гэтую мясцовасць адбылося ў 1792 г. Першым даследваў гэтыя крыніцы прафесар Сарторыс – хімік, і Юндзіл быў перакананы, што адмоўная характарыстыка прафесара адносна прыдатнасці іх да эксплуатацыі вядомымі спосабамі, напрыклад, згушчваннем праз пару, была слушнай. Аднак Юндзіл паспрабаваў іншую тэхналогію, а менавіта – выкарыстанне для згушчвання раствору замарожанай салёнай вады і атрыманне такім чынам лепшых якасцяў прадукту. Ст. Б. Юндзіл правёў вельмі ўважлівыя даследванні, паўторна правёў аналіз хімічнага складу вывучанай вады, апісаў свае эксперыменты і падрыхтаваў рапарт, які апублікаваў пасля як шырокую дысертацыю ("Пра салёныя крыніцы і стакліеныя солі". Вільня 1792).


POCZĄTKI
BOTANIKI
PRZEZ
X. STANISŁAWA JUNDZIŁŁA
WYDANIE DRUGIE
W WILNIE

У тыя часы, калі Станіслаў Баніфацы Юндзіл распачынаў сваю прафесарскую дзейнасць, польская прыродазнаўчая, а значыць, і батанічная, літаратура была вельмі беднай. Юндзіл слушна лічыў, што гэта перашкаджае ў дыдактычнай працы і папулярызацыі батанікі ў грамадстве. Таму ён лічыў сваім абавязкам узбагачэнне нацыянальнай літаратуры. Прафесар з'яўляўся аўтарам некалькіх значных выданняў, якія шмат гадоў служылі моладзі падручнікамі. У 1799 г. у Вільні выходзіць "Ужытковая батаніка, або звесткі пра ўласцівасці і месца раслін у гандлі, эканоміі, мануфактуры і іх радзіме, размнажэнні, утрыманні паводле сістэмы Лінея". Сама назва, як гэта здаралася ў выданнях васемнаццатага стагоддзя, ужо дастаткова паведамляла пра змест працы. Можна яшчэ дадаць, што – як аўтар сам прыгадвае ў "Дзённіку" – ён сабраў у прыгаданай працы ўсе свае назіранні падчас замежнага падарожжа. Такім чынам Юндзіл яшчэ ў пачатку сваёй прафесарскай дзейнасці быў аўтарам дзвюх важных кніг: "Флоры літоўскай" (або "Апісанне дзікарослых раслін у правінцыі ВКЛ паводле сістэмы Лінея") і прыгаданай вышэй "Ужытковай батанікі". У пазнейшы час Юндзіл пачаў працу над наступным важным творам. Разважаючы над прыдатнасцю для дыдактычных мэтаў падручніка Кшыштафа Клюка, які, дарэчы, ён высока цаніў, прафесар канстатаваў, што на працягу тых 20 гадоў, якія прайшлі з часу выдання "Батанікі для нацыянальных школ" (Варшава, 1785 г.), у батаніцы адбыліся такія значныя змены, што неабходна напісаць новы падручнік. Юндзіл сам заняўся гэтай справай, і ў 1804 г. у Варшаве выходзіць першы том новай кнігі, прызначанай для школ, пад назвай "Пачаткі батанікі, 1 ч. Фізіялогія раслін", а 2 ч. - "Навука тэрміналогіі" (г. зн. шырокі слоўнік батанічных тэрмінаў) – была апублікавана ў 1805 г. Кніга была прыгожа ілюстравана, што рабіла больш лёгкім карыстанне слоўнікам тэрмінаў. Выданне гэтай працы папярэдзіла доўгая дыскусія ў асяроддзі віленскіх вучоных, не заўсёды прыхільная аўтару, але рэцэнзіі іншых польскіх батанікаў, асабліва вельмі прыхільная Францішка Шэйдта – кракаўскага, а потым крамянецкага прафесара – перахілілі вагі на карысць Юндзіла. Дарэчы, менавіта таму гэтая кніга была надрукавана ў Варшаве, а не ў Вільні. "Пачаткі батанікі" мелі яшчэ другое выданне ў 1818 г., і было яно ў значнай ступені дапоўнене згодна новых навуковых дадзеных. Гэта датычыла перад усім частак пра фізіялогію раслін. Кніга амаль адразу пасля першага выдання была прызнана досыць цяжкай для вучняў і залічана да універсітэцкіх падручнікаў. Аднак з цягам часу ўзровень вывучэння батанікі ў школах узрастаў, і "Пачаткі батанікі" рэкамендавалі як падручнік для школ. Віленскі прафесар паклапаціўся таксама пра падрыхтоўку навуковага дапаможніка для студэнтаў і выдаў папраўленую і перапрацаваную на ключ да пазначання раслін сваю першую флору. Яна выйшла пад назвай "Апісанне літоўскіх раслін паводле сістэмы Лінея" у 1811 г. у Вільні. Свае намеры аўтар прадставіў ва ўводзінах, дзе пісаў, што гэтае новае выданне літоўскай флоры мае на мэце зрабіць больш лёгкай навуку пра расліны ягоным вучням. Гэтая кніга шмат гадоў служыла фларыстам у іх працы.



*Старонка кнігі Ст. Б. Юндзіла "Пачаткі батанікі"*


OPISANIE ROŚLIN
LITEWSKICH
WEDŁUG
UKŁADU LINNEUSZA
PRZEZ
X. B. S. JUNDZIŁŁA
PROFESSORA BOTANIKI
W WILNIE
w Józefa Zawadzkiego Typografa Akademickiego
1811.

Ст.Б.Юндзіл шмат гадоў выкладаў і заалогію. У гэтай галіне ён апрацаваў падручнік "Кароткі нарыс заалогіі" у трох тамах (Вільня, 1807 г.). Гэтая кніга таксама атрымала шырокае прызнанне і доўгі час выкарыстоўвалася як падручнік, які рэкамендаваўся школам на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў XIX стагоддзя. Чацвёртае выданне выйшла ў 1829 г. Многія прыродазнаўцы лічылі, што ў ёй змяшчаецца найлепшае тлумачэнне сістэмы Лінея з усіх зробленых на парозе XIX стагоддзя.

Кнігі Юндзіла былі папулярныя таксама і ў сувязі з прыгожай мовай, якой былі напісаны. Віленскі прафесар быў не толькі піянерам у стварэнні марфалагічнай тэрміналогіі раслін, што даказвала яго "Навука тэрмінаў". Назаўсёды засталося ў польскай мове і шмат відавых назваў, ім утвораных.

Калі ў 1823 г. Юндзіл пакідаў пасаду прафесара батанікі і заалогіі ў Віленскім універсітэце, ён перадаў кафедру добра падрыхтаванаму наступцу. Юзаф Юндзіл(13) (ён быў вучнем прафесара, але не яго родным) – вучань і ад'юнкт пры кафедры прыродазнаўства – на момант прыняцця абавязкаў меў за плячыма некалькі гадоў замежнага падарожжа (1817-1820) і самастойную навуковую экспедыцыю ў паўночную Літву (1821 г.).

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Каментары Аляксандра Кольшкі.***

*13. Юндзіл Юзаф (1794-1877) –батанік, прафесар Віленскага універсітэта, даследчык-фларыст, галоўная праца "Opisanie roslin na Litwie, na Wolyni, Podolu i Ukrainie dziko rosnoncych jako i oswojonych" (1830).*

# Сітуацыя вакол Лідскага замка

*З нагоды 25-годдзя пачатку рэстаўрацыі Лідскага замка Лідская гарадская арганізацыя ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" з дзейснай дапамогай рэспубліканскай арганізацыі ТБМ спланавала шэраг крокаў дзеля прыцягнення ўвагі грамадскасці і ўладаў да праблемаў найстарэйшага замка Беларусі - Лідскага замка, заснаванага з волі Вялікага князя Гедзіміна ў 1323 годзе.*

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуўся з адпаведнымі лістамі да прэзідэнта краіны і міністра эканомікі. Сябры ТБМ па ўсёй краіне сабралі каля тысячы подпісаў на імя міністра эканомікі з просьбай спланаваць сродкі з дзяржаўнага бюджэту на завяршэнне рэстаўрацыі замка.*

*Адміністрацыя прэзідэнта даручыла даць адказ Міністэрству культуры, а Міністэрства эканомікі само дало адказы, як старшыні ТБМ, так і старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ. Мы публікуем гэтыя адказы цалкам, бо яны праясняюць сітуацыю не толькі з Лідскім замкам, але і з іншымі аб'ектамі гістарычна-культурнай спадчыны.*

*З адказаў вынікае, што паколькі замак знаходзіцца ва ўласнасці мясцовых органаў улады, то асноўны цяжар па фінансаванні яго рэстаўрацыі павінен легчы на Гарадзенскі аблвыканкам і Лідскі гарвыканкам. Але Лідскі замак - помнік 1-й катэгорыі. Да больш высокай 0-й катэгорыі ў Беларусі адносіцца толькі Мірскі замак.*

**МІНІСТЭРСТВА ЭКАНОМІКІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**
**Мінэканомікі**
вул. Берсана, 14, 220050, г. Мінск
тэл 222-60-48 факс 220-37-77



**МИНИСТЕРСТВО ЭКОНОМИКИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
**Минэкономики**
ул. Берсона, 14, 220050, г. Минск
тел. 222-60-48, факс 220-37-77

Ад 19.12.2003 № 16-01-16/18391

**Судніку С. В.**
**231300, Ліда – 2, п/с 7.**

**Аб рэканструкцыі Лідскага замка.**

Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь разгледзела зварот грамадзян па пытанні рэстаўрацыі Лідскага замка і паведамляе.

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 8 кастрычніка 2002 г. № 1395 зацверджаны пералік прыярытэтных аб'ектаў рэстаўрацыі гістарычна-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з гэтым пералікам Міністэрствам культуры распрацаваны графік чарговасці далейшага фінансавання рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ па аб'ектах гістарычна-культурнай спадчыны, зыходзячы з іх значнасці, фізічнага стану і наяўнасці сродкаў. Рэканструкцыя Лідскага замка ўваходзіць у гэты пералік.

У адпаведнасці з указанай пастановай Міністэрству эканомікі, Міністэрству фінансаў сумесна з Міністэрствам культуры даручана, штогод пры фармаванні праекту дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы ў вызначаным парадку прадугледжваць капітальныя ўкладанні для правядзення рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ па аб'ектах гістарычна-культурнай спадчыны. зыходзячы з магчымасцяў рэспубліканскага бюджэту.

Праект дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы на 2004 год адобраны 18 лістапада (пратакол № 49) прэзідыюмам Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і ў гэты час знаходзіцца на паўторным узгадненні ў Камітэце дзяржаўнага кантролю.

У рамках праекту дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы наступнага года на фінансаванне дзяржаўных капітальных укладанняў з рэспубліканскага бюджэту прадугледжана 183,8 млрд. рублёў бюджэтных асігнаванняў або 94,4 працэнта да ўзроўню 2003 года. Бюджэтныя асігнаванні ў указанай праграме сканцэнтраваны на ўводных аб'ектах і аб'ектах з высокай ступенню будаўнічай гатоўнасці.

Значныя сродкі ў праекце Дзяржаўнай інвестыцыйнай праграмы на 2004 год прадугледжаны на фінансаванне пераходных будоўляў і аб'ектаў, якія адносяцца да высокай катэгорыі аховы гістарычна-культурнай спадчыны і маюць вялікае сацыяльнае значэнне.

У адпаведнасці з распараджэннем прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 снежня 1997 года № 363 рп "Аб рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля XVI-XVIII ст. ст. у г. Нясвіжы" вядецца рэстаўрацыя замка Радзівілаў нацыянальнага гістарычна-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж". Замак Радзівілаў будзе функцыянаваць у якасці культурна-асветніцкага цэнтра з размяшчэннем стацыянарнай музейнай экспазіцыі ў аднаўленых інтэр'ерах галоўных залаў замка.

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 2 кастрычніка 2002 года № 1370 "Аб некаторых мерах па рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля ў г. Нясвіжы і замкавага комплекса г.п. Мір" зацверджаны пералік мерапрыемстваў па рэстаўрацыі названых гістарычна-культурных каштоўнасцяў на перыяд 2002-2006 гг.

Рэстаўрацыйна –аднаўленчыя работы на замку г.п. Мір Карэліцкага р-на выконваюцца з улікам стварэння міжнароднага гістарычна-культурнага цэнтра з размяшчэннем у ім музейнай экспазіцыі ў аднаўленых інтэр'ерах залаў палаца. Рашэннем ЮНЭСКА замкавы комплекс атрымаў сертыфікат аб унясенне яго ў спіс помнікаў сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны.

У рамках праекту Дзяржаўнай інвестыцыйна праграмы наступнага года на ўказаныя мэты прадугледжана 10,3 млрд. рублёў.

У бліжэйшыя годы будзе працягнута будаўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Толькі ў 2004 годзе на яе будаўніцтва накіроўваецца 65 млрд. рублёў або 35 працэнтаў ад аб'ёму дзяржаўных капітальных укладанняў. На сёння па бібліятэцы выяўлены дадатковыя затраты, не ўлічаныя праектна-каштарыснай дакументацыяй, што ў далейшым пацягне павелічэнне каштарыснага кошту аб'екта.

Міністэрства эканомікі разумее значнасць для рэспублікі культурнай спадчыны, у тым ліку і аднаўлення Лідскага замка. Аднак, рэальная магчымасць дзяржаўнай падтрымкі яго аднаўлення ў бліжэйшай перспектыве адсутнічае. Улічваючы абмежаваннасць інвестыцыйных магчымасцяў рэспубліканскага бюджэту, фінансаванне рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ па замку павінна ажыццяўляцца ў першую чаргу за лік сродкаў мясцовага бюджэту. Гарадзенскаму аблвыканкаму неабходна разгледзець магчымасць прыцягненне на гэтыя мэты пазабюджэтных, спонсарскіх і іншых магчымых крыніц фінансавання.

У мэтах аднаўлення і захавання ўнікальнага помніка архітэктуры і культуры Міністэрства эканомікі разгледзіць пытанне далявога ўдзелу з сродкаў рэспубліканскага бюджэту ў фінансаванні рэканструкцыі Лідскага замка пасля ўводу ў эксплуатацыю Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі пры фармаванні дзяржаўных інвестыцыйных праграмаў на наступныя гады.

**Намеснік міністра** **Л. В. Дзямідаў.**

*(Пераклад з рускай.)*

МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Праспект Машэрава,11, 220004, г. Мінск
Тэлефон (017) 223 75 74
Тэлефакс (017) 223 90 45



МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
Проспект Машерова,11, 220004, г. Минск
Телефон (017) 223 75 74
Телефакс (017) 223 90 45

**Грамадскае аб'яднанне**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**

**Аб рэстаўрацыі Лідскага замка**

Па даручэнні Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17.11.2003. № 10/535-169 Міністэрства культуры разгледзела пытанне рэстаўрацыі Лідскага замка і паведамляе.

Пастановамі Савета Міністраў ад 06.05.2002 № 579 і ад 08.10.2002 № 1395 зацверджаны Пералік прыярытэтных аб'ектаў рэстаўрацыі гістарычна-культурнай спадчыны краіны і ўздзел дзяржавы па іх фінансаванні.

На падставе гэтага Міністэрствам культуры распрацаваны графік чарговасці далейшага фінансавання рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ па аб'ектах гістрычна-культурнай спадчыны, якія ўключаны ў вышэйназваныя пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ў залежнасці ад іх значнасці, фізічнага стану і наяўнасці сродкаў. Лідскі замак ўключыны ў склад прыярытэтных аб'ектаў рэстаўрацыі на ўмовах долевага ўдзелу сродкаў рэспубліканскага бюджэту ў будучыя гады.

Аднак на сённяшні дзень інвестыцыйная дзейнасць у Рэспубліцы Беларусь строга рэгламентавана фінансавымі магчымасцямі па капітальнаму рамонту, рэстаўрацыі, новаму будаўніцтву і накіравана на безумоўнае выкананне раней прынятых даручэнняў Кіраўніка дзяржавы і Ураду Рэспублікі Беларусь. З прычыны абмежаваных інвестыцый рэспубліканскага бюджэту неабходна канцэнтрацыі іх на важнейшых сацыяльна-значных будоўлях, Міністэрства накіроўвае выдзеленыя бюджэтныя асігнаванні ў першую чаргу на аб'екты рэспубліканскага падпарадкавання і абмяжоўвае фінансаванне аб'ектаў мясцовай камунальнай уласнасці.

Такім чынам, у існай сітуацыі фінансаванне работ па замку павінна праводзіцца ў першую чаргу за кошт мясцовага бюжэту (будынак з'яўляецца камунальнай уласнасцю аблвыканкаму), а таксама за кошт іншых крыніц (пазабюджэтныя сродкі, спонсарская падтрымка, іншыя інвестыцыі, канцэнтрацыя якіх павінна ажыццяўляцца Лідскім гарвыканкамам).

**Намеснік Міністра В. К. Гедройц.**



***Пакуль вакол замка ідзе папяровая валтузня, ён разбураецца. На здымку заходняя сцяна замка, якая рэстаўравалася саматугам у першай палове 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Кавалак верху сцяны па частках рухнуў у двор замка. Нахіліўся ў бок двара і гатовы рухнуць туды ж яшчэ ладны кавалак сцяны. Верхні пласт каменнай кладкі і ніжні пласт цаглянай кладкі выпучваюцца вонкі. Пры падзенні верху сцяны ў двор ніжнія пласты могуць рухнуць у бок горада. Архітэктар горада Вацлаў Матэйка раз-пораз звяртае ўвагу кіраўніцтва гарвыканкаму на тое, што абрушэнне сцяны можа мець і трагічныя наступствы. Аднак ніякіх практычных мераў для ўхілення небяспекі пакуль не прагладваецца.***

*Лідскі замак ад моманту свайго заснавання і да апошняга года існавання Вялікага Княства Літоўскага ніколі не быў у ніякай уласнасці акрамя дзяржаўнай. Калі гораду Лідзе было нададзена Магдэбургскае права, улада магістрату горада не распаўсюджвалася на замак. Замак належаў дзяржаве.*

*На сёння, на чый бы баланс не запісвалі Лідскі замак, ён з'яўляецца агульнанацыянальнай каштоўнасцю, і спробы з боку шаноўных міністэрстваў увесь клопат за замак ускласці на Гарадзенскі аблвыканкам і Лідскі гарвыканкам не з'яўляюцца безапеляцыйнымі. І справа тут не толькі ў грашах.*

*Адказваючы на пытанне карэспандэнта газеты "Культура" (№ 1-2, 2004) пра развіццё індустрыі культурнага турызму намеснік старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Дражын зазначыў:*

***- Зараз мы працуем над стварэннем свабоднай культурна-турыстычнай зоны "Мінск - Нясвіж - Мір - Навагрудак - Гродна"...***

*На маршруце Нясвіж-Мір-Наваградак-Горадня знаходзіцца горад Ліда, які практычна немагчыма абмінуць. Ліда стаіць і на маршруце Менск-Горадня. Але ўспаміну пра горад Ліду ў сувязі з гэтай свабоднай зонай няма. І вось тут узнікаюць пытанні і да мясцовых начальнікаў. Можа спадар Дражын проста забыўся нас назваць? А калі, сапраўды, Ліду не ўключылі ў гэтую зону, выкінулі, як нявартую ўвагі, то чаму?, якія захады для гэтага зрабілі нашыя кіраўнікі? і г. д.*

*На гэтыя і іншыя пытанні мы паспрабуем адказаць у наступных публікацыях пра сітуацыю вакол Лідскага замка.*

***Станіслаў Суднік.***



## ЖЫХАРЫ ГОРАДНІ ПРАПАНУЮЦЬ УЗВЕСЦІ Ў ГОРАДЗЕ ПОМНІК ВАСІЛЮ БЫКАВУ

Горадня, 21 студзеня. Вялікая група жыхароў Горадні выступіла з ініцыятывай ўзвесці ў абласным цэнтры помнік Васілю Быкаву і назваць імем беларускага пісьменніка адну з вуліц. Аб гэтым БелаПАН паведаміў дэпутат Гарадзенскага гарсавету Сяргей Антусевіч.

Паводле яго слоў, пад накіраванай у гарвыканкам заявай аб неабходнасці ўвекавечыць памяць В.Быкава падпісалася больш за 500 чалавек. "У звароце падрабязна выкладзены гарадзенскі перыяд яго жыцця, што заняў амаль тры дзесяткі гадоў. За гэты час была напісана значная частка найлепшых яго твораў, а Горадня, паводле прызнання самога пісьменніка, стала для яго другой радзімай, і мы лічым неабходным аддаць даніну людской павагі вялікаму майстру слова і грамадзяніну", — патлумачыў дэпутат.

Ён сказаў, што ў пісьмовым звароце да ўладаў утрымліваецца шэраг прапаноў. "Адна з іх тычыцца перайменавання вуліцы Свярдлова, на якой жыў літаратар, у вуліцу Быкава. Але паколькі гэтая вуліца маленькая, то ёсць і альтэрнатыва — назваць імем беларускага пісьменніка бульвар Ленінскага камсамола". Сярод іншых прапаноў — стварэнне ў Горадні музея пісьменніка, устанаўленне мемарыяльнай дошкі на доме, дзе ён жыў, выданне кнігі ўспамінаў, зацвярджэнне штогадовай прэміі ў галіне літаратуры, мастацтва і журналістыкі, правядзенне юбілейных вечарын і быкаўскіх чытанняў.

Сяргей Антусевіч паведаміў, што ініцыятыва пакуль не падтрымана мясцовымі ўладамі. "Магчыма, для прыняцця імі рашэння неабходны рэкамендацыі на рэспубліканскім узроўні", — зазначыў ён.

*Віктар МАКАРЭВІЧ, БелаПАН.*

## У КАНЦЫ СТУДЗЕНЯ АБ'ЯДНАННЕ "ГІСТОРЫКА" ПАЧНЕ РЭАЛІЗАЦЫЮ ПРАЕКТА "ВКЛ = БЕЛАРУСЬ + ..."

У канцы студзеня пачнецца рэалізацыя новага культурна-гістарычнага праекта моладзевага грамадскага аб'яднання "Гісторыка" пад назвай "ВКЛ = Беларусь + ...".

Як паведаміў БелаПАН выканаўчы дырэктар аб'яднання Зміцер Рагачоў, мэта праекту — адкрыць аматарам айчыннай мінуўшчыны вядомыя і невядомыя старонкі гісторыі блізкіх і далёкіх краін, якія маюць агульнае з Беларуссю мінулае часоў Вялікага княства Літоўскага. Праект, паводле яго слоў, прадугледжвае знаёмства з унікальнымі культурна-гістарычнымі помнікамі ў розных рэгіёнах, а таксама "стварэнне сучаснай нацыянальнай культурна-турыстычнай выязной мадэлі". "Соллю" гэтай мадэлі, сказаў Рагачоў, стануць сучасныя беларускія музыканты, удзельнікі рыцарскіх клубаў, спевакі і танцоры, якіх "Гісторыка" будзе браць з сабой у падарожжы. Кульмінацыямі кожнага такога падарожжа стануць сумесныя вечары з мясцовымі жыхарамі.

Як паведаміў З. Рагачоў, першая паездка — у Львоўскую вобласць Украіны — адбудзецца 30 студзеня. Яе ўдзельнікі азнаёмяцца з шасцю найбольш вядомымі замкамі. А ў сакавіку "Гісторыка" правядзе аўтападарожжа ў Вільню, падчас якога запланаваны ўдзел у нацыянальным літоўскім свяце "Казюкас". Акрамя таго, запланавана наведванне замкаў украінскага горада Валынь і паездка ў Польшчу на рыцарскі фестываль.

Як лічыць З. Рагачоў, цікавасць беларусаў да сваёй гісторыі расце на вачах. Пра гэта сведчыць вялікая папулярнасць фестываляў сярэдневяковай гісторыі і культуры ў Навагрудку і Нясвіжы. "Беларусы адкрываюць для сябе старажытныя, аднак такія сучасныя традыцыі, музыку, песні і гульні, рамёствы і кухню", — сказаў кіраўнік грамадскага аб'яднання.

Новы праект "Гісторыкі" падтрыманы ініцыятыўнай групай па стварэнні грамадскага аб'яднання "Міжнародная сярэднявечная ліга" і менскім турыстычным агенцтвам "Альтус Плюс".

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

### Адказы на крыжаванку са ст. 12.

**Па гарызанталях:** 1.Марал. 4.Бакан. 10.Талака. 11.Клапан. 13.Брага. 15.Гранат. 16.Забава. 19.Трал. 21. Каравай. 22.Кара. 23.Расклад. 24.Паркаль. 27.Каса. 29.Таракан. 31.Апал. 35."Аманал" 36.Канада. 37.Асака. 39.Баласт. 40.Кракаў. 41.Карма. 42. Таран.

**Па вертыкалях:** 2.Арарат. 3.Араб. 5.Арка. 6.Абакан. 7.Салака. 8.Плазма. 9.Панама. 12.Агата. 14.Кажан. 17.Караван. 18.Самакат. 20.Ласка. 22.Краса. 25.Склад. 26.Алдан. 28.Статак. 30.Адвага. 32.Прагал. 33.Галава. 34.Барана. 37.Атам. 38.Акра.

## У МЕНСКУ Ў ВЫДАВЕЦТВЕ "БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР" ВЫЙШЛІ ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ ФРАНЦІШКІ - УРШУЛІ РАДЗІВІЛ

Менск, 21 студзеня. У Менску, у выдавецтве міжнароднага грамадскага аб'яднання "Беларускі кнігазбор", накладам у 1.800 асобнікаў выйшлі "Выбраныя творы" Францішкі-Уршулі Радзівіл.

Як паведаміў БелаПАН дырэктар выдавецтва Генадзь Вінярскі, зборнік упершыню знаёміць беларускага чытача з самабытнай айчыннай пісьменніцай XVIII стагоддзя, якую літаратурныя крытыкі назвалі "Нясвіжскай Сафо".

У кнізе сабрана ўсё найлепшае з яе творчай спадчыны — вершы і драматычныя творы, а таксама лісты да блізкіх і знаёмых. У дадатку публікуюцца дзённікавыя нататкі яе мужа, вядомага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, князя Міхаіла-Казіміра Радзівіла (Рыбанькі).

Як падкрэсліў Г. Вінярскі, "нідзе ў свеце літаратурная спадчына Ф.-У. Радзівіл ніколі не выдавалася ў такім аб'ёме".

У гісторыю беларускай культуры яна ўвайшла як заснавальнік прыдворнага тэатра ў Нясвіжы, які з'яўляўся рэзідэнцыяй магнацкага роду Радзівілаў. Для свайго тэатра, якому не было роўных ва ўсёй Рэчы Паспалітай, нясвіжская асветніца напісала 16 драматычных твораў, у аснове якіх ляжаць вядомыя літаратурныя, фальклорныя і міфалагічныя сюжэты. Разам з тым, у літаратурнай спадчыне Ф.-У. Радзівіл захавалася шмат лірычных вершаў, у якіх яна праявіла сябе таленавітай паэткай.

Асноўная тэма творчасці пісьменніцы, якая пісала на польскай і французскай мовах, — жаночая доля, каханне і высокая духоўнасць. У сваіх п'есах яна стварыла цэлы шэраг цікавых жаночых вобразаў. Яе гераіні — ахвяры мужчынскага вераломства, верныя і адданыя жонкі, мужныя барацьбіткі за веру і свабоду.

Зборнік, што налічвае 448 старонак, склаў вядомы беларускі драматург, доктар філалогіі Сяргей Кавалёў. Прадмову да выдання напісалі даследчыкі творчасці Ф.-У. Радзівіл Жана Некрашэвіч-Кароткая і Наталля Русецкая.

Кнігу, коштам прыкладна 6 тысяч рублёў, можна набыць у кнігарнях краіны.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння беларускага мовазнаўцы Арцёма Баханькова



Нарадзіўся Арцём Яўхімавіч 29 студзеня 1924 г. у в. Саламір'е Полацкага раёна Віцебскай вобласці. Перад вайной закончыў Полацкую педагагічную навучальню і ў 17-гадовым узросце загадваў Бікульніцкай пачатковай школай.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пачаў вайну 17-гадовым хлопцам у 1941 г. у партызанскай брыгадзе ім. К. Я. Варашылава, закончыў байцом Чырвонай Арміі ў 1945 г. у Румыніі. Тройчы паранены. Узнагароджаны трымя падзякамі Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, двума медалямі "За адвагу", медалём "За доблесную працу" і інш.

У 1955 г. скончыў філалагічны факультэт Менскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута. У 1960 – аспірантуру пры гэтым інстытуце. З 1960 г. па 1992 г. паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную сінтаксісу паўднёва-заходніх гаворак Беларусі.

Арцём Яўхімавіч – актыўны стваральнік "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" ў 5 тамах, як аўтар, сябар рэдкалегіі і рэдактар 2-га тома. Як дасведчаны лексікограф А. Я. Баханькоў быў адным з аўтараў і рэдактараў акадэмічных "Руска-беларускага слоўніка (выд. 2, 1982) і "Беларуска-рускага слоўніка" (выд 2. 1988-89), сааўтарам "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (вытрымаў 6 выданняў) і "Толкового словаря русского языка" (4 разы выдаваўся на Беларусі і двойчы ў Санкт-Пецярбурзе).

А. Я. Баханькоў плённа працаваў у галіне тэарэтычнай лексікалогіі. Ён – адзін з аўтараў і рэдактараў манаграфіі "Гістарычная лексікалогія беларускай мовы" (1970). Манаграфія "Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд" (1982) з'явілася асновай доктарскай дысертацыі, абароненай ім у 1986 г. У 1994 г. пад яго кіраўніцтвам і з яго непасрэдным удзелам выйшла манаграфія "Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы". Кніга хутка знайшла сваіх чытачоў у асяроддзі філолагаў, студэнтаў, настаўнікаў, пісьменнікаў і журналістаў. У цэлым Баханьковым апублікавана звыш 130 навуковых прац.

Не спыняў Арцём Яфімавіч сваёй педагагічнай дзейнасці, пяць гадоў запар (1987-1991) быў старшынём Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі на філфаку БДУ, кіраваў дыпломнымі працамі студэнтаў – выпускнікоў і кандыдацкімі дысертацыямі. Як сябар спецыялізаванай вучонай рады і як вядомы вучоны ён часта выступаў афіцыйным апанентам па доктарскіх і кандыдацкіх дысертацыях, рэцэнзаваў шматлікія падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, навуковыя працы.

З 1992 г. А. Я. Баханькоў загадваў кафедрай беларускай мовы пры Прэзідыюме НАН Беларусі. За пяць гадоў працы кафедры пад кіраўніцтвам Арцёма Яўхімавіча рознымі формамі навучання было ахоплена звыш 1000 слухачоў: дактарантаў, аспірантаў, спаборцаў, супрацоўнікаў акадэміі.

Чулы, шчыры, спагадлівы чалавек, добры арганізатар, нястомны працаўнік, Арцём Яўхімавіч быў клапатлівым бацькам і дзядулем, верным і адданым сябрам сваёй жонкі. Да апошняга дня горача любіў родную Полаччыну, што заусёды вабіла і давала адпачынак спрацаванаму сэрцу.

Самаахвярнае служэнне А. Я. Баханькова роднаму слову адгукаецца ўдзячнасцю шматлікіх вучняў, студэнтаў, проста зацікаўленых людзей.

Памёр 12 жніўня 2001 г. Пахаваны на Маскоўскіх могілках у Менску.

## РУДНЯНСКІЯ ШКОЛЬНІКІ ПАЧЫНАЮЦЬ АДНАЎЛЯЦЬ СТАРАЖЫТНЫ ПАРК

*Навучэнцы Руднянскай базавай школы Полацкага раёна - актывісты гуртка "Спадчына"- пачынаюць адраджэнне Руднянскага парка, які калісьці існаваў паблізу ад паселішча.*

Як высветлілі школьнікі, у XIX ст. парк уяўляў сабой прыгожы зялёны масіў, у розных сектарах якога расло больш за 50 відаў дрэваў, акаля панскага маёнтка быў фантан.

Цалкам адрадзіць комплекс сіламі гуртка ці школы праблематычна. Тым не менш, ужо зараз дзеці ўласнымі сіламі прыбралі смецце і пачысцілі штучны вадаём. Каб працягнуць аднаўленне паркавага комплексу, актывісты гуртка "Спадчына" разлічваюць на падтрымку мясцовых уладаў і Полацкага лясгасу. Напрыклад, улетку падлеткі плануюць пры дапамозе Фарынаўскага сельскага савета прывесці да ладу колішнюю сажалку.

*Юрась Сьцяпанаў, www.belngo.info.*

## ГОРАЦКІ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЦЭНТАР ПЕРАДАЎ ДАРУНКІ АПАЛЬНЫМ ЛІЦЭІСТАМ

*Горацкі раённы інфармацыйны цэнтар перадаў навучэнцам Гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа канцтавары і музычныя інструменты.*

Каля 100 сшыткаў і некалькі флейтаў вырашыў накіраваць ліцэістам старшыня Раённага інфармацыйнага цэнтру Горак Віктар Каралькоў. Летась ягоная дачка сама патрапіла ў сітуацыю, падобную да становішча менскіх ліцэістаў: улады адмаўляліся забяспечваць ейнае права на беларускамоўнае навучанне.

"У такой сітуацыі, – тлумачыць сп.Каралькоў, – галоўнае адчуваць, што ты не адзін. Спадзяюся, што гэтыя сціплыя рэчы будуць знакам нашай салідарнасці з маладзёнамі, якія не здаюцца перад незаконным рашэннем уладаў."

Як зазначыў Максім Русець, сябра Ліцэйскай Рады, "кожны падарунак, любая дапамога з боку людзей дае нам болей надзеі і ўпэўненасці."

Перададзеныя рэчы належалі супрацоўнікам Раённага інфармацыйнага цэнтра.

*Ілля Заранок, www.belngo.info.*

C. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 40. КРЫЎСКІ СЦЕНАПІС

Як скрыжалі,
Што тлумачылі
сам шлях да раю.
Шанавалі
Крыўскі сценапіс
у польскім краі.

Там, азяблы.
Боль і сорам сэрца незагайны,
Роднай фарбай.
Як жывой вадой лячыў Ягайла.

Ліхадзеі.
З ім маліліся паны крутыя.
І глядзелі
Запытальна ў вочы
ўсім – святыя.

Ды аб ладзе
Думкі-гукі іх былі штохвілі:
Што ж вы, браце,
Напалам і неба падзялілі?

Са сцен вачэй
Не зводзіў слынны пан Ржэвускі.
Бо ўсё яшчэ
Дзівіўся: роспіс гэткі –
ды ліцьвіна-рускі.

### 41. БЕЛАРУСКАЯ ГОТЫКА

Быццам звыкламу зроку
ўсё не хапала чагосці.
Як ў зорцы высокай.
лучыліся храмавы косці.
Нат і дрэва зялёнае побач
здаваляся хмурным.
Перацягваў талію пояс –
прывабны, ажурны.
Неспакойнай нібыта паставы
палохалі цені.
Ды каменных пудоў,
чутна, стала
лягчэйшым адзенне.
А вачніцы акон.
на сваё заклікалі маленне.
Заглыбленні вакол,
як самі ўспаміны, бялелі.
Што ж такая туга
засталася ад часу старога?
Цяжка дыхаў арган,
дый увесь паміраў ля парога.
Хвалі-гукі пакутныя
ўвысь уздымаліся строма.
Бы ранейшаму купалу
воблака сціснула скроні.
Ды і вернікаў тых
ледзь не плюшчыў
такі абярэмак –
Быццам злоўлены тыгр
час трывожны дрыжаў
паміж сценак.

### 42. ЛІТОЎСКАЯ КАФЛЯ

Вось жа слаўна
Чыясьці рука расстаралася,
Як завадная.
Дываном адмысловым
уся пакрывалася
Сценка пячная.
Тут шумеў свет раслін,
Розных птушак-звяроў,
Дудкі-гуслі гудзелі,
Быццам песняй сваёй
цудатворылі зноў
Разьбяры-чарадзеі.
Заваліла вакол і вазы, і кашы
Незвычайная ніва.
Гэтак моцна прыйшлося
майстрам да душы
Еўрапейскае дзіва.
І пад свечак святлом
віравала стыхія



Жыцця і тварэння.
Зіхацелі кавалкі
кругом люстраныя,
Як цуда-каменне.
Трэба радасна жыць на зямлі!
Хто ты ёсць,
О, мастак-прапаведнік?
Мітусіўся ў вачах
На ўсю чортаву моц
Пышны казачны кветнік.
Каб вяльможна вось гэтак
Сцяна ўбіралася-
Дзе хоць паўслыху?
Урачыста грымела
І звонка спрачалася
Гербава пыха.
Дык жа зводзіла
З глузду яна не адну
Галаву смачнай стравай.
Ах! І вершнік чырвоны
Сягнуў на сцяну -
Не сцярпеў ён таксама.
І як хочаш ты
колераў жвавых заві
Разнастайныя рухі –
А былі ў завадатараў іх на зямлі
Незвычайныя вочы і рукі.
Бы пярэстага ветразя
побач цвіла
Незабыўная роўнядзь.
І чакалася – процьму
З чароўнага шкла
Яшчэ іскраў народзіць.

### 43. МІНІЯЦЮРЫ

Толькі хапіла бы
Пальцам знаёмага спрыту
І не схлусіла б трымценне
Ля таннага скарбу.
Паміж абрыдлых ужо
Баразён строгіх літар,
Як самацветы, пад свечкаю
Ўспыхнулі фарбы.

І не патрэбна было
Аніякага п’янага зелля –
Трызненне ў нецярплівых вачах
Віравала.
Буйна расліны заморскія
Ў пышных застаўках квітнелі,
Перапляталіся целы пачвар –
Дзіўных ініцыялаў.

Да абразоў сваіх клікалі люд
Мастакі і паэты
Ды летуценілі жарсна
Пра Бога, аб раі.
Два сутыкаліся ярка
Ў дыспуце свету:
З грэчаскім золатам –
Захад густой кінавар’ю.

Пішуцца, пэўна, зусім недалёка
Скрыжалі.
Рэхам апостальскім
Заклік разносіцца Божы.
А чытачу назаўсёды
У сэрца запалі
Твары Лукі і Матфея тутэйшых,
З-пад Оршы.
Для успамінаў-малітваў
Збіраюцца адзінаверцы.
А ў старога пергаменту –
Вечныя сценкі.
Пераліваюцца ў храме такім
Вітражы і акенцы,
Іскрамі скачуць у розумах
Вочы-люстэркі.

Доўга яшчэ нечакана
Разгубленым марам,
Усхваляванаму зроку
Натхненнем жывіцца.
Каб здрыгануць белым выбухам
Цьмяныя твары,
Прыцемкам часта прыходзяць
Здаля бліскавіцы.

### 44. СЛОВА КРЫНІЧНАЕ

Нехта зачараваў,
да сябе заманіў,
Сцяў салодкім палонам,
Ля азёр, на кавалку
прыгожай зямлі
Запынілася Слова.

Тут знайшло яно гукам
прытулак святы,
Разам – радасць і скруху.
І да кроплі наскрозь
сакавіта-густым
Пранізалася духам.

Што ні вабіла побач –
крыніцы напеў
Ці журбота амшару –
Забірала заўжды
з вантробамі сабе
Блізкім родным цяжарам.

Не жадала старонкі другой,
акрамя
Прыкіпелай трывала.
І ўчэпіста свежая блізка ралля
За жывое трымала.

З гушчаром забаўлялася,
утульным і цесным,
Дрыгвою лянівай.
Гэтаксама гучала яно
непрычэсана
І дрымуча-цнатліва.

Бы дражніла словы заморскія
Ядраным,
ды нязграбным жа зыкам.
Глухаманіста плёскалася
І заўсёды – ледзь косназыка.

Недаступны быў гукаў
прыгожы закон
Чымсці вуснам няўмелым.
Смачна дзекала,
цекала пад языком
І салодка мякчэла.

Ды здавалася гутарка
плённай гульнёй;
Што ні слова – знаходка.
Гаварыў, як араў,
продак ёмісты мой –
Важка і нетаропка.

Колькі дзіваў зямлі
слова нам зберагло!
Песні – шчырыя сведкі:
Прамянілася,
дыхала ясным святлом
Нашай папараць-кветкі.

Не выносіла смерці
крывавага паху,
Яе сутарэнняў.
Спатыкалася,
білася проста з размаху
На ратных каменнях.
А былі вельмі блізкія мы і свае
З ім адзіным затое.
І салодка жа чулася доўга – заве
Наша рэха жывое.

Упляталася словейка
ў зладжаны хор.
Спеўна, любае, спела.
Паміж сцежак няхуткіх гучала:
“Чабор!”,
“Шолах,” – нам шапацела.

### 45. СЛОВА ВЫШЭЙШАЕ

Была яшчэ згода ў сям’і,
Сваціў часы нам старыя.
Тады на літоўскай зямлі
Па-нашаму ўсе гаварылі.

Не верылі брэхам – няўжо
Мяжой ад крыніц адгародзіць?
Хоць ледзь разумеў нас ужо
Маскаль, аднаверны суродзіч.

Такія ж былі дзікуны –
І на Каляду ці Купалле
Без пыхі залішняй паны
Сялянскія песні спявалі.

Дык песціў народ гаману,
Як дрэвы – уласнае лісце.
І смачныя слоўцы яму
Ад шчодрай зямлі дасталіся.

Не слаба збіралі ў кош,
Няслі з сакавітае былі.
І госці ўсякія тож
Нам пёрлаў сваіх надарылі.

Наладзілі моцна жытло
Замовай адной адмысловай.
На ніве цвіло, дарасло
Яно да вышэйшага, слова.

Бо іншых было гарачэй
І болей спаткала даверу.
Тады па-мужыцку яшчэ
Пісала дзяржава паперы.

І што там Варшава ці Рым
З лаціны завілістым шляхам!
Гучалі законы жывым,
Балюча пранізлівым пахам.

Не тыцкала лыч парасё,
Не ў цемры хістаўся блукалец.
А ведаў мой продак усё,
Што “шалобник иншый имаеть”.

Дый гэтага болей – зрэдчас
Пякло, як ад перчыны вострай,
Вучонаму слову нявраз,
Як толькі спрачалася з простым.

Ды зналіся па-за імжой
І творцы ім, і валацугі.
Бо Госпада голас ажно
Даводзілі родныя гукі.

Ўзышло неблагое сяўво
Ў краі яшчэ напрадвесні.
У нашую хату святло
Скарынавы кнігі ўнеслі.

І благаслаўлялі дзяды...
Дык не ад пустога дзівацтва
На польскую позву тады
Плявала тутэйшае панства.

Хавалася ў шафу куцця,
Вачэй адганялася скруха.
І большала сэнсам быцця
Паводка народнага духу.
Далёка цяклі ручаі
Яе скрозь чужую навалу.
Аб найдаражэйшым сваім
Нам слова спаўна расказала.

### 46. ДЗВЕ СЯСТРЫ

Моцны вецер хвастаў з-за пляча,
Разляталася лісце.
У няласкавы вечарам час
Дзве сястры разышліся.

Хоць не блізкай занадта сям’і
Неразлучныя дзеці,
Ды сваячкамі неяк былі
У натоўпе суседзяў.

Хто не помніў –
пад пэўны настрой,
Між дарог пакручастых –
І гасцілі адна ў другой,
І сварыліся часта.

Семя блізкае, што не кажы,
Ды лёс накасавурыў.
Згоднай хатай адною пажыць
Не прышлося з-за буры.

Па старэйшай, як быццам мятла
Праняслася няўмольна,
А малодшая новых знайшла
Сваякоў навакольных.

Сярод кветак усіх на Русі
Не была незабудкай,
Аб сяброўцы даўнейшай зусім
Пазабылася хутка.

Бо прыйшла да багатых муроў
Не ў жабрацкую засень.
Акрыяўшы ж, другая ізноў
Панаваць разышлася.

Залатая яе ўжо наспела пара –
Быць царыцай.
Дзе, маўляў, загуляла сястра,
Закруціла блудніца?!

Не злічыць ашалелых чарцей
Яе ўсіх карагодных,
Ах, паскудніца, шчэ і дзяцей
Нагуляла заходніх!

Не хапала якой бараны
Ёй, такой бзікаватай?
Ці зусім, мо, ужо не адны
Абразы ў нашых хатах?

Дзе ў ёй сорам былы? Карацей,
Насамрэч, не жартую:
Хай вяртаецца з фэста хутчэй –
Яшчэ, можа, дарую.

Не віталіся доўга яны,
Іх далёкія мары.
А сышліся праз попел вайны –
Ледзь пазналіся твары.

Дзён смяротных пайшла паласа.
І – яшчэ вольным – целам
Скаланулася меншая ўся:
Як сястрыца злюцела!

Вось жа трапіў
насустрач ражон:
Збегчы б прэч ад нядолі.
Каб скрываўленых рук яе ўжо
Ёй не бачыць ніколі.

Яшчэ крок усяго па жарстве –
І сама занядужыць.
Ах, не знала яна: тыя ж рукі яе
Ў абдымках задушаць.

*(Працяг у наступным нумары.)*





*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

***Остарман.*** Падзеі, ваша вялікасць, так хутка разгортваюцца, што іншы раз не ведаеш з чаго і пачынаць. Дарэчы, Запарожскія казакі і гайдамакі выступілі супраць канфедэратаў. А ў Слуцку пачаўся мужыцкі бунт у падтрымку канфедэратаў.

***Кацярына II.*** Вялікакняскія магнаты з кім?

***Остарман.*** Караль Радзівіл адмовіўся падтрымаць канфедэратаў і заявіў, што будзе ваяваць з імі, як з ворагамі. Аляксандр Сапега таксама выступіў на нашым баку.

***Кацярына II.*** Зразумелі, адчулі інтрыганы, што могуць згубіць, калі не галовы, то замкі і маёнткі...

***Остарман.*** Адчулі, ды не ўсе. Шляхта Мядзеля, Радашковічаў, Менска пад зверхнасцю Шымана Касакоўскага выступіла супраць нашых войскаў. Больш за тое, гетман вялікакняскі Казімір Агінскі падпісаў у Пінску акт аб сваім далучэнні да канфедэрацыі і хутчэй за ўсё з падтрымкі караля Станіслава Аўгуста. Князь Рапнін сведчыць іх нядаўнюю сустрэчу.

***Кацярына II.*** Не ўтрымаўся скрыпач! Знюхаўся з каралём!

***Остарман.*** Мала сказаць — не ўтрымаўся, ваша вялікасць. З трохтысячным войскам атакаваў наш полк пад мястэчкам Сталовічы, што пад Навагрудкам і фактычна знішчыў яго. Толькі ў палон трапіла каля 500 нашых салдат, а палкоўнік Алабычаў быў забіты.

***Кацярына II (злосна).*** Я ж спецыяльна пасылала аддзел палкоўніка Суворава сачыць за паводзінамі гетмана вялікага Агінскага! Ён куды глядзеў?!

***Остарман.*** Ваша вялікасць, палкоўнік Сувораў свой абавязак выканаў. Зрабіўшы імклівы кідок у бок Нясвіжа на падтрымку нашым войскам, ён даведаўся, што гетман Агінскі са сваім войскам знаходзіцца ў тых жа Сталовічах і з ходу, ноччу, як гэта ўмее рабіць толькі Сувораў, атакаваў яго.

***Кацярына II.*** Пазнаю Суворава!

***Остарман.*** Перамога над Агінскім поўная. 511 чалавек пасечаны, 300 — паланёныя, астатнія патоплены ў балотах. Захоплены абозы і дваццаць гармат. Сувораў меў аддзел у 800 шабель, згубіў 8 сваіх.

***Кацярына II.*** Брава, граф Сувораў!

***Остарман.*** На жаль, дзеянні графа Суворава выклікалі незадаволенасць камандуючага нашымі войскамі ў Рэчы Паспалітай Веймарна.

***Кацярына II.*** Цікава!

***Остарман.*** Па яго плану галоўная роля ў барацьбе з Агінскім павінна была належыць Дрэвіцу. І ён падаў рапарт-скаргу вашай вялікасці. *(Перадае пакет Кацярыне II.)*.

***Кацярына II (апусціўшы пакет у кошык для папер)***. Камандуючага Веймарна замяніць! Графа Суворава прадставіць да ўзнагароды ордэнам Аляксандра Неўскага і надаць яму званне генерал-маёра!

***Остарман.*** Слухаю, ваша вялікасць!

***Кацярына II.*** Калі Агінскага не злавілі, то злавіць і даставіць у Шлісельбургскую крэпасць!

***Остарман.*** Эміграваў гетман. Кажуць, у Францыю.

***Кацярына II.*** Маёнткі, вёскі, землі і мястэчка Круглае, што належыць здрадніку, секвеставаць і перадаць княгіні Дашковай, муж якой загінуў у Княстве яшчэ ў 1764 годзе. Крычаўскае староства падарыць ад майго імя князю Пацёмкіну, Гомельскае — Румянцаву-Задунайскаму.

***Остарман.*** Ваша вялікасць, але ж гэта землі вялікакняскія і пакуль толькі часова намі акупаваныя. Кароль можа і прэтэнзіі заявіць...

***Кацярына II.*** Тады слухайце мяне ўважліва, віца-канцлер расійскай імперыі! Тое, што я зараз скажу, увойдзе ў гісторыю як першы падзел рэчы Паспалітай. Аўстрыя паспяшалася і ўжо заняла Цыпскае і Зандэкскае староствы і захапіла саляныя польскія капальні Вялічкі і Бохніі. Прускі кароль заявіў: нішто так не садзейнічае канчатковаму вырашэнню пытання аб падзеле Рэчы Паспалітай, як гэты аўстрыйскі захоп. Ён напісаў свайму пасланніку ў Пецярбург наступнае: *(чытае з аркуша)* "Я не бачу іншых сродкаў для захавання

Алесь Петрашкевіч

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

раўнавагі, як паследаваць прыкладу венскага двара і заявіць падобныя яму старажытныя правы, якія знаходзяцца ў маіх архівах, і завалодаць якой-небудзь маленькай правінцыяй у Польшчы". Падрыхтуйце неадкладна дэпешу нашаму паслу ў Аўстрыі князю Галіцыну для перадачы імператрыцы Марыі Тэрэзіі, што я і кароль Прусіі згодны далучыць Аўстрыю да падзелу Рэчы Паспалітай.

***Остарман.*** Слухаю, вашв імператарская вялікасць!

***Кацярына II.*** І рыхтуйце канферэнцыю трох дзяржаў, на якой будзе падпісана канвенцыя аб падзеле тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

***Остарман.*** А кароль, ваша вялікасць?..

***Кацярына II.*** Які яшчэ кароль?... І не задавайце імператрыцы дзіцячых пытанняў!... Да Аўстрыі адыйдуць частка Малой Польшчы і большая частка Чырвонай Русі за выключыннем Кракава, Прусіі дастанецца епіскапства Вармія і Каралеўская Прусія. За Расіяй мы замацуем Інфлянцкае, Полацкае, Віцебскае, Мсціслаўскае ваяводствы з Рагачовам, Прапойскам, Чачэрскам і Гомелем. Кожная з трох дзяржаў будзе трымаць свае войскі на аддзеленых ад Рэчы Паспалітай тэрыторыях.

Да падпісання канвенцыі неабходна падрыхтаваць мой указ аб фармаванні расійскіх губерняў: Пскоўскай з 4-х правінцый — Пскоўскай, Дзвінскай і Полацкай з губеранскім горадам Апочкай, і Магілёўскай з названымі правінцыямі Вялікага княства.

***Остарман.*** Зраблю неадкладна, ваша вялікасць. Справа сапраўды гістарычная.

***Кацярына II.*** Гэта толькі пачатак вялікага. Так што яшчэ раз з Богам у добры час!

**Дзея другая**

**V**

*У пакоі караля і вялікага князя сядзяць у чаканні Гуга Калантай і Ігнацы Патоцкі. З'яўляецца кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, ўсхваляваны і разгублены.*

***Панятоўскі (пацiснуўшы рукі запрошаным).*** Панове, сябры, другі, паплечнікі, браты-паляні! Так больш прадаўжацца не можа! 18 гадоў землі Польшчы і землі Вялікага княства пад пятою расійскай, прускай і аўстрыйскай тыраніі, а сама Рэч Паспалітая пад жорсткім азіяцкім уціскам узурпатара ў спадніны. Дыхаць больш няма чым. Пастаянная знешняя расійска-ардынская небяспека выразна паказала і засведчыла не толькі нам, але і ўсяму грамадству такое становішча Польшчы, якое неадпавядае тым уяўленням аб палітычным і сацыяльным ладзе Рэчы Паспалітай, якая некалі ганарылася сваімі свабодамі і роўнасцю паміж народамі і дзяржавамі! У свеце вызваленчыя войны, рэвалюцыі, а ў нас нейкае гнілое балота, якое ў хуткім часе ўсё зацягне цвіллю і цінаю. Я, вядома, не заклікаю вас паўтарыць у нас Вялікую Французскую рэвалюцыю і адправіць мяне на гільяціну, ці распачаць вызваленчую вайну накшталт амерыканскай. Але ж і мы Еўропа! І нічога іншага, акрамя канчатковай загубы ад Азіёпіі не дачакаемся.

Ігнацы, Гуга — вы розум нацыі, вы асветнікі і выдатныя палітычныя дзеячы, нарэшце, вы першыя прыхільнікі брата-паляка Станіслава Аўгуста, якога Бог пакараў каронаю. Дык прапануйце ж нешта!

***Патоцкі.*** Як першы паратунак прапаную ўсё тую ж глыбокую рэформу дзяржаўнай улады: абмежаванне правоў магнатаў і духавенства, адмену liberum veta і нарашчэнне войска хоць бы да 100 тысяч штыхоў і шабель, не кажучы ўжо пра мушкеты і гарматы. Вядома ж, я падтрымаю і ўсё тое, што куецца ў кузні шаноўнага Гугі Калантая...

***Калантай.*** Мая кузня, не адмаўляючы прапанаванага маршалкам вялікім Княства Літоўскага, мае сёння магчымасць прапанаваць Канстытуцыю, як гэта зрабілі змагары за свабоду ў Амерыцы, з розніцай толькі ў тым, што мая кузня прапануе Канстытуцыю Рэчы Паспалітай не пасля вайны, як у амерыканцыў, а да яе, калі выпадзе такая доля.

***Панятоўскі.*** Рабіце рэформы, стварайце армію, пішыце, урэшце, канстытуцыю, але нешта рабіце, покі польска не згінэла.

***Калантай.*** Канстытуцыя ў асноўным напісана...

***Патоцкі.*** І, дарэчы, не горшая за амерыканскую.

***Панятоўскі.*** Называецца — сябры-паплечнікі! Кароль пра канстытуцыю даведваецца апошнім...

***Калантай.*** Канстытуцыя ва ў мовах манархіі ды яшчэ пры жывым каралі — рэч тонкая і далікатная. Думалася, выкуем ды гарачанькую і падамо яго вялікасці...

***Панятоўскі.*** Прыму гарачую і падтрымаю без выключэнняў, калі каралю, як я ўжо казаў, не плануецца гільяціна на французскі манер.

***Калантай.*** Манархія захоўваецца, як канстытуцыйная. Устанаўліваеца наследванне трона для таго, каб ліквідаваць выбары караля, якія заўсёды выклікалі сярод магнатаў барацьбу за ўладу і давалі магчымасць іншаземным дзяржавам умешвацца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай.

***Панятоўскі.*** Разумна. Я гатовы з гэтым пагадзіцца.

***Калантай.*** Бадай што давядзецца. На гэтым будзе настойваць сойм. Каралеўская ўлада абмяжоўваецца соймам, якому і будзе належаць заканадаўчая ўлада.

***Патоцкі.*** Каб яснавяльможны кароль уступіў сойму, той у парадку кампенсацыі забараніў бы liberum veta, ўзброеныя канфэдырацыі, як форму ціску на караля.

***Панятоўскі (задаволена).*** Нарэшце чую голас мужоў дзяржаўных!

***Калантай.*** Па нашай канстытуцыі выканаўчая ўлада належыць каралю і радзе, якая складаецца з прымаса Польшчы і пяці міністраў, якіх прызначае і здымае з пасад кароль.

***Панятоўскі.*** І гэта нармальна.

***Калантай.*** Захоўваюцца ранейшыя прывілеі шляхты і ёй дазваляецца займацца гандлем, што да гэтага часу лічыцца ганебным і выклікае насмешкі ў той жа Еўропе. У сойм уводзяцца прадстаўнікі мяшчан.

***Патоцкі.*** Змякчаецца прыгоннае права.

***Калантай.*** Яго варта было б адмяніць наогул і не ўпадабляцца Расіі, але ў сойме сёння гэта яшчэ не пройдзе.

***Патоцкі.*** Канстытуцыя дэкляруе свабоду веравызнання...

***Калантай.*** Але прызнае першынства каталіцкацкай рэлігіі.

***Панятоўскі.*** Запішы яшчэ, што адступніцтва ад яе з'яўляецца здрадаю. І яшчэ пра непарушанасць уніі Польшчы і Вялікага Княства, а таксама незалежнасць і суверэннасць Рэчы Паспалітай двух народаў.

***Калантай.*** Канстытуцыя аб'яўляе Рэч Паспалітую адзінай унітарнай дзяржавай і ўсё яе насельніцтва — адзіным народам.

***Панятоўскі.*** Яно б то добра для Польшчы, але думаю, што тут ёсць небяспека пасварыцца з Княствам. А гэта не пажадана і небяспечна...

***Патоцкі.*** Як маршалак вялікі Княства, я не магу пагадзіцца, што з двух народаў адзін можна рабіць.

***Панятоўскі.*** Няхай гэта сойм абмяркуе. А там з Княства не адзін ты будзеш.

***Патоцкі.*** А што да месцічаў, то ў канстытуцыю варта было б уключыць прызнанне за імі права асабістай недатыкальнасці, права набыцця маёнткаў і іншыя правы. Як і пра тое, што беззямельная шляхта пазбаўляецца выбарчых правоў.

***Панятоўскі.*** Трэба падумаць... Гэта небяспечна!...

***Калантай.*** А што тады яснавяльможны кароль скажа на тое, што ў канстытуцыю ўнесена права на свабоду слова і друку!...

***Панятоўскі.*** Думаеш трэба?...

***Калантай.*** А што, мы горшыя за тую ж Амерыку? Унеслі і не каюцца!

***Панятоўскі.*** І то праўда! Еўропа мы ці не Еўропа?!... А тое, што ў іх рэспубліка, а ў нас манархія, дык мы і пры манархіі колькі стагоддзяў рэспублікай лічымся. Шкада, што за межамі не ўсе ведаюць, што Рэч Паспалітая — гэта і ёсць рэспубліка папольску.

...Толькі сумняваюся я, мае вы шаноўныя складальнікі, што сойм прапусціць нашу канстытуцыю...

***Патоцкі.*** Прапусціць! На зло яе імператарскай вялікасці прыме!

***Панятоўскі.*** Каб пасінела ад злосці да пазногцяў! Каб зубамі скрыгатала "просветительница" дзікай арды! Бачыце, хваляванні павінны падаўляцца "огнем, мечем и всем тем, что только от вооруженной руки произойти может".

***Патоцкі.*** Пасінее і заскрыгоча толькі тады, калі мы будзем мець пад сваёй рукою хоць бы 100 тысяч жаўнераў! І асабліва, калі яснавяльможны кароль паставіць начале войска выпрабаванага ў баях барацьбіта за незалежнасць Злучаных Штатаў Амерыкі Тадэвуша Андрэя Банавентуру Касцюшку, якому кангрэс ЗША надаў званне брыгаднага генерала і ў пастанове сваёй запісаў, каб ваенны міністр засведчыў гэтаму афіцэру, што кангрэс прасякнуты высокім усвядамленнем яго працяглых і асабліва каштоўных заслугаў.

Паслухайце толькі, што ён нам напісаў у Княства, адкуль сам родам-плдеменем: (зачытвае з аркуша) "Хіба вы адмаўляецеся ад мяне і лічыце нядзятным служыць вам? Кім жа я з'яўляюся? Хіба ж я не ліцвін, ваш зямляк, вамі абраны? Каму павінны дзякаваць, калі не вам? Каго павінен абараняць, калі не вас і сябе самаго... Калі гэта вас не кране для ўнясенне прапановы пра мяне на сойм, каб вярнуўся, то я сам буду вымушаны, бачыць Бог, што-небудзь кепскае сабе ўчыніць. Таму што злосць мяне бярэ... Каб з Літвы ў Кароне служыў, калі вы не маеце і трох генералаў. Калі вас вешаць на вяроўцы будуць гвалтоўнікі, тады толькі адумаецеся і пра сябе пачнеце клапаціцца..." Бачыць Бог, не перавяліся сапраўдныя рыцары ў нашым краі!

***Панятоўскі.*** Пакліча Божы час, можа, паставім начале войска і Касцюшку. Але лепш было б не ваяваць, як Гуга кажа, а спачатку разумныя законы стварыць і соймам сцвердзіць. Ці ж усё ў нас тут зроблена?!..

***Калантай.*** Як паветра, дзяржаве трэба асновы кадэфікацыі крымінальнага ды грамадзянскага права. А ў аснову новага заканадаўства пакласці Статут Вялікага Княства Літоўскага, аб якім немагчыма прыгадаць без вялікага захаплення... Гэты Статут робіць гонар чалавечаму розуму. Ён складзены так разумна, асабліва ў дачыненні да пакарання, што яго можна лічыць самай дакладнай кнігай законаў ва ўсёй Еўропе.

Нездарма да яго стварэння ў свой час прычыніўся Францішак Скарына, а пазней Леў Сапега.

***Панятоўскі.*** Вы так шчыра пераконваеце караля, нібы ён супраць кадэфікацыі законаў ды яшчэ на аснове такога падмурка, як Статут вялікакняскі.

***Калантай.*** У такім разе паважаны кароль можа на нас разлічваць.

*Панятоўскі абдымае Калантая, а потым Патоцкага.*

*Сцэна зацямняецца.*

*(Працяг у наступным нумары.)*

